



# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714






http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 51 (3006) Год LVIII | Беласток, 22 снежня 2013 г. | Цана 4,00 зл. (у тым VAT 5%)




Вера Масайла

# Рэкордны „Дэбют”!



Люба Харкевіч



Завяршыўся чарговы — XVI — агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы сарганізаваны „Нівай” і Беларускім саюзам у Польшчы. На працягу конкурсу (пачаўся ў 1996 годзе) прыняло ў ім удзел 559 асоб. Сёлета, падобна як у 2001 годзе, уражвала найбольшая колькасць канкурсантаў, у гэты раз рэкордная — 70 удзельнікаў, 72 камплекты прац, разгляданых у дзвюх узроставых катэгорыях: I група — дзеці і моладзь пачатковых школ і гімназій і II — вучні сярэдніх школ і дарослыя.

У апошнім выпуску прыняло ўдзел 45 творцаў з першай групы і 27 з другой, у тым ліку 43 дэбютантаў; з першай — 36, з другой — 7. Другі раз прыслалі свае літаратурныя спробы вучні з Міхалова (у мінулым годзе — адна вучаніца), у якім аднавілася навучанне беларускай мовы; з Міхалоўскай гміны прыйшло аж 24 працы ад 26 вучняў, усе з іх — дэбютанты, таксама адна з паэтак — Раксана Кананчук, здабыла III узнагароду за свае творы. Зматывавала сваіх падапечных да такога калектыўнага ўдзелу ў прэстыжным літаратурным конкурсе настаўніца беларускай мовы Эмілія Грыка, родам з Новага Ляўкова ў Нараўчанскай гміне. Трэба адзначыць гэтыя дзве гміны — Міхалоўскую і традыцыйна ўжо Нараўчанскую, з якой найбольш удзельнікаў — і вучняў пачатковай школы і гімназіі, якіх заахвочваюць да пісання дзве настаўніцы — Анна Кандрацюк і Ліля Тарасевіч, а таксама штогод сапраўдны высып дэбютантаў дарослых (нават і пажылых). Адтуль паявілася дэбютантка, якой за 80 гадоў — Вера Радзіванюк з Міхнаўкі, і маладзейшыя — Кастусь Целушэцкі з Новага Ляўкова і Аля Ясвіловіч з Семяноўкі. Адтуль родам узганароджаныя з першай групы Магдаліна Бяляўская і Кацярына Мучко (Нараўка), Наталля Васько (Тарнопаль), з другой — Мартына Ева Леанеўская (цяпер з Вроцлава), Лукаш Марчук з Нараўкі (цяпер гайнаўскі белліцэіст), Люба Харкевіч і Валянціна Мядзведзь (цяпер беластачанкі). Так што ўдзельнікаў, якія маюць або мелі дачыненне да Нараўчаншчыны — будзе з адна трэць канкурсантаў, у тым ліку трох студэнтаў, што цікава, не, скажам, філалогіі, а ветэрынарыі, лясніцтва і еўрапеістыкі. Вялікай грамадой удзельнікі конкурсу прыбылі таксама на ўрачыстую сустрэчу ўсіх аўтараў, вылучаных узнагародай і не вылучаных, але ўдзел у конкурсе і друк твораў з'яўляецца таксама вялікім вылучэннем і наблітацыяй, пра што адзначыла старшыня конкурснай камісіі вядомая паэтэса Надзея Артымовіч. У транспарце дапамог войт Нараўчанскай гміны Мікалай Павільч, які ведае аб тым, што свае паэты з'яўляюцца адной з лепшых візітных картак гміны. Дарэчы, здаецца, праўду кажуць, што ў Нараўчанскай гміне і наднараўскай ваколіцы — „найбольшая шчыльнасць пражывання паэтаў”, а не ўсе яны яшчэ паказалі плён свайго натхнення і працы. „Бо пісанне — гэта самы цяжкі жыццёвы шлях, — сказала Надзея Артымовіч. — Гэта самастойная, настойлівая праца. I чытанне, чытанне, чытанне. I пісанне не толькі на конкурс. Сам конкурс дае магчымасць сканцэнтраваць сілы, сканфрантавацца з іншымі. Друк твораў у „Ніве” гэта вялікая ўзнагарода і наблітацыя. Я памятаю свой дэбют у „Ніве” ў 1970 годзе, пасля якога я проста лунала над Варшавай”. З ліку ўдзельнікаў конкурсу „Дэбют” на працягу гадоў выйшлі аўтары (неабавязкова перапераможцы), у якіх ёсць ужо свае кнігі, як, напрыклад, Юрка Буйнюк (прымаў удзел у „Дэбюце” яшчэ як вучань пачатковай школы) ці Кацярына Сянкевіч і іншыя, якія сталі журналістамі, філолагамі. Але кожны з удзельнікаў, сур'ёзна падыходзячы да свайго змагання з тым, каб трапна ў родным беларускім слове выказаць свае пачуцці і імгненні жыцця, з'яўляецца пераможцам. Таму вельмі важныя такія асабістыя сустрэчы аўтараў, прытым у большай кампаніі — як сёння, 15 снежня, з прызнанымі літаратарамі, прыбылымі на ўрачыстасць з літаратурнага семінара „Бязмежжа”. Бо ж не кожны можа атрымаць узнагароду — бо ж гэта конкурс, адбор. Але ў творы кожнага аўтара можна знайсці перавагі і дасканаласці, таму пасяджэнне міжнароднай камісіі заўсёды вельмі бурнае і некароткае.

У першай групе II месца атрымалі дэбютантка Габрыеля Торка з Беластока (вучаніца Непублічнай школы імя свсв. Кірылы і Мяфодзія, настаўніца беларускай мовы — Іаанна Марко) і Магдаліна Бяляўская (школа ў Нараўцы), III — Раксана Кананчук з Міхалова, вылучэнні — Наталля Васько з Тарнопаля і Кацярына Мучко з Нараўкі (школа ў Нараўцы). Трэба адзначыць таксама і апавяданне Веранікі Кардзюкевіч, вучаніцы пятага класа НП імя свсв. Кірылы і Мяфодзія ды бельскай белгімназісткі Евы Аврчук, якой апавяданне „Цені” вартае друку на сур'ёзных літаратурных старонках (дарэчы, Ева Аврчук і Гаўрыла Грынявіцкі з Бельскага белліцэя былі адзінымі прадстаўнікамі Бельшчыны!). Вылучаны таксама творы Клаўдзі Сікорскай з Міхалова У другой групе перамагла Вера Масайла з Гайнаўкі вельмі спелымі вершамі, якія вартыя друку ў індывідуальным зборніку (а такія творы „Маці Іскерачкі” нават з самога конкурсу ад яго пачатку). На другім месцы апынуліся вершы настаўніка Слаўаміра Куліка з Гайнаўкі і студэнткі шостага курса ветэрынарыі ва Вроцлаве Мартыны Евы Леанеўскай (выпускніцы Гайнаўскага белліцэя). Трэцюю ўзнагароду здабылі вершы Лукаша Марчука з Нараўкі, вучня першага класа Гайнаўскага белліцэя, мінулагодняга пераможцы яшчэ ў першай катэгорыі. Можна спадзявацца, што Лукаш Марчук пойдзе сур'ёзным пісьменніцкім шляхам, бо апрача таленту ў ім ёсць і чытацкая ўседлівасць, і талковая працавітасць. Вылучаны творы Валянціны Мядзведзь (першы раз ад пачатку існавання конкурсу адзначаны „народны” паэт!) ды лірычная проза Любы Харкевіч, немаладой настаўніцы і аніматаркі культуры, якая ўрэшце адважылася паказаць штосьці са сваіх твораў пісаных у стол. Дарэчы, адносна прозы, сябра камісіі Янка Трацяк з Гродна звярнуў увагу на выдатныя тэксты маладзенькіх Веранікі Кардзюкевіч і Евы Аврчук ды апавяданне Дыяны Юрчук з Ганаўкі, а сярод дарослых — на сатырычна-фантастычнае апавяданне „Уладзіміраў-Васток” Аляксандры Сасновай з Нараўкі, абразкі Аліны Леанеўскай з Пасек у Нараўчанскай гміне „Чатыры поры года з акна майго дома”, апавяданне нараўчанкі Паўліны Бяляўскай „Я не герой сваёй эпохі”, гайнавян Сцяпана Карбоўскага „Здрада” і Ірэны Лукшы „Іншы свет”. Чытачы „Нівы” пазнаёмяцца з усімі творамі і кожны з іх можа даць таксама сваю ацэнку.

Варта адзначыць, што наш конкурс можна назваць сямейным. Сёлета прынялі ў ім удзел сёстры — Магдаліна і Паўліна Бяляўскія ды Аляксандра Сасноva, Карнелія і Вікторыя Барэчка, сястра і брат Наталля і Радаслаў Васько, Уршуля і Лукаш Марчукі, Наталля і Рафал Марчукі, дачка і маці Дыяна Юрчук і Ірэна Лукша, бабуля, дачка і ўнучка: Зінаіда Кандрацюк, Аліна і Мартына Ева Леанеўскія.

Мерапрыемства зрэалізавана пры фінансавай падтрымцы Міністра адміністрацыі і лічбавізацыі. Узнагароды фундавалі таксама Маршалкоўская ўправа Падляшскага ваяводства, Саюз беларускіх пісьменнікаў, Кампанія „Будзьма”, Беларускае літаратурнае аб'яднанне „Белавежа”, Радыё Рацыя і „Ніва”.

**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**





# Паўзучы год

2013 год, які паводле ўсходняга гараскопа быў годам змяі, праслізнуў праз лету гісторыі як паўзучы гад, не пакінуўшы беларусам на гэтым часавым адрэзку асаблівых радасцей, надзей і дасягненняў. Улада надалей ішла сваім шляхам знішчэння нацыянальнага, даводзячы сваю палітыку, законы і практыку да абсурду. Апазіцыя чарговы раз дзялілася, але толькі паміж сабой. Народ паранейшаму душыўся ў чэргах супермаркетаў, на баразне, ля консульстваў і на мяжы. Гэтыя тры, розныя па велічыні, часткі грамадства існавалі пераважна ў паралельных светах. Калі яны перасякаліся, прыемнага было мала, практычна карыснага яшчэ менш, а ў цэлым нічога не змянілася.

Палітычныя дэмакратычныя партыі і групоўкі, замест умацавання ўжо існаваўшай кааліцыі, чарговы раз зазналі новы перадзел і пераарыентацыю. Практычна ў апазіцыі акрэсліліся два блокі — умоўна „правы" і ўмоўна „лева-ліберальны", рэшта невялікіх палітычных плыняў пакуль на ўзбочыне. Адны прапануюць нейкі „народны рэферэндум", іншыя зацыклены на „справядлівых выбарах", трэцяя фактычна маўчаць, ні то ў глыбакадумнасці, ні то ў разгубленасці, і нічога не прапаноўваюць. На маю думку, палітычная пазіцыя мусіла з'яднацца па некалькіх найважнейшых пунктах, „кітах", на якіх можна было б грунтаваць сваю палітыку, аднак гэтага не здарылася. Першая пазіцыя — гэта палітвязні. Тут нібыта адзінства ў апазіцыі ёсць, але яно дагэтуль не афармлена нават у выглядзе жорсткіх агульных прынцыпаў. Таму і не звяртае ўвагі ўлада на асобныя, нават гучныя, але толькі дэкларатыўныя заявы, таму і з'яўляюцца новыя палітычныя вязні. Іншы ключавы момант — гэта пабудова ў Беларусі расейскай атамнай станцыі. Гэта самы небяспечны геапалітычны і вайсковы праект у нашай краіне, але для апазіцыі ён нібы не існуе зусім. Адзінкавыя грамадскія актывісты геройчна змагаюцца супраць гэтай смяротна небяспечнай АЭС. Грамадская актыўнасць, дарэчы, надае пэўныя падставы для аптымізму. Неабыякавыя людзі гуртуюцца ў суполкі і змагаюцца за сваё — за права на памяць, на сваю гісторыю і культуру, бароняць ад знішчэння народны мемарыял Курапаты...

Найпрасцей аналізаваць і зразумець дзеянні ўлады. Вось тут сапраўды няма ніякіх загадак, нечаканасцей ці сенсацый. Усё паслядоўна, гладка і прычасана. Як на могілках, дзе нібыта парадак і дагледжанасць, але выхаду для нябожчыкаў няма. Гаспадарка спаўзала і далей паўзе ў такі глыбокі крызіс, з якога выйсця нават не праглядваецца. Эканоміка Беларусі нібы ачмурэлы наркаман, які жыць не можа без чарговай ін'екцыі і таму ліхаманкава і адчайна яе шукае ў выглядзе новых „халяўных" крэдытаў. Інакш і быць не можа, калі няма сапраўднай прыватнай уласнасці, няма свабоды і развіцця дробнага і сярэдняга прадпрымальніцтва, няма зразумелых правілаў для вядзення бізнесу, няма празрыстых інвестыцый, няма пільнавання нацыянальных інтарэсаў. Што датычыць дзяржаўнай палітыкі, то яна скрозь заснавана на фальшывай ідэалогіі, у яе ніхто не верыць — ні з высокіх дзяржаўных службоўцаў, ні з дробных чыноўнікаў. Наменклатура ўсё больш пераўтвараецца ў класічную каланіяльную адміністрацыю з адзінай пазіцыяй ці позай: „Чево изволите?". Гэтыя людзі нават не задумваюцца, што заўтра ўсе мы можам прачнуцца ўжо не ў суверэннай Беларусі, а ў Расейскай Федэрацыі. Яны працуюць, кіруючыся толькі страхам і надзённай меркантыльнасцю, далёка схаваўшы ў незагаральную шафу свае сумленне і гонар.

Застаецца народ. Але што такое гэты „народ" стагоддзямі не могуць вызначыць нават лепшыя мысляры чалавецтва. Беларускі народ застаецца з аднаго боку глыбока русіфікаваным, з іншага — ён мысліць пераважна катэгорыямі спажывання і выжывання. Галоўная бяда ў тым, што бальшыня людзей не разумее каштоўнасці сваёй мовы, культуры, традыцый. Вось менавіта гэта адрознівае ў горшы бок беларусаў ад тых жа ўкраінцаў. Таму і падняліся ўкраінцы на змаганне за праўду большымі сіламі, чым мы.

Дык як акрэсліць агульны стан беларускага грамадства? Застой? Калапс? Класічная абыякавасць і млявасць да жыцця? Летаргія? Шчыра прызнаюся — не ведаю. Можа наступны год прадэманструе нешта больш выразна...

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Няхай там застаюцца

Хто мае памятаць пра паэтаў — аўтараў юнацкага зборніка вершаў, або толькі аднаго верша надрукаванага ў мясцовай прэсе? Аб гэтых творцах рыфмаваных. Аб нядзельных дэміургах. Аб былых матросах п'яных караблёў, кветак паэзіі агароднікаў, а сёння бацькаў сем'яў перад тэлевізарамі, маці-нараджальніцах распятых паміж кухняй і працай на крыжы паўсядзённасці. Аб гэтых шэрапаспалітых грамадзянах мурашнікаў або тэрмітнікаў. Хто мае памятаць аб іх ніколі неапублікаваных раманах? Аб напалову запісаных старонках, напаўняючых з краямі шуфляды сталоў зачыненыя на ключык? Толькі могілкі літаратурнага нездзяйснення.

Хтосьці, ужо не памятаю хто, напісаў пра іх, што ляжаць яны на ўскраіне галактыкі Гутэнберга. Прыгожа сказана. Ветліва. Шкадуючы. Не таму, што ён хацеў назваць непасрэдна: сметніцай адходаў цывілізацыі пісаніны і друку. Роем тэкставага глупства, графаманства; ганебным сведчаннем недасканаласці чалавечага духу, абразы пяра і друку. Пабочныя прадукты цэрэбральнай пісаніны, што з'яўляецца вынікам культурнай экскрэцыі. Нечым сярэднім паміж магілай і клаачнай ямай. Абрыўкамі паперы, шматка-думкамі, акалечанымі астанкамі без твараў-вокладак. Таварыствам вельмі падазроным, што прыцягвае да сябе ўтварэнні аднолькава няўдалыя, калекі, пароны. Хоць часам, некаторыя з іх пранікаюць у самыя глыбокія нетры бібліятэк. Выпадкам, хутчэй дзякуючы даволі руціннай, біюракратычнай дзейнасці бібліятэкара, чым свядомай волі збірання. Гадамі тады крыюцца ў кучы бібліятэчнай макулатуры, у яе сырых падвалах або на гарышчах. У цемры, на краі фізічнага знішчэння і канчатковага знікнення. Але часам не ўсё нікне. Часам у пыле і брудзе, у трухлеючым стусе хаваецца Кніга. Трэба проста яе адкрыць, дастаць, вычысціць ад пылу і павуціння. Разам зазвае Залатая Думка, ідэя, форма. Пакажа схаваную старонку Шэдэўра. Таму што шэдэўр становіцца. Не адразу. Аддаючы перавагу краю, на перыферыі — ніколі ў цэнтры свету, людзей, іх гонкі да ўлады і грошай, да славы і вядомасці. Спее ў сабе, часам у гнілой купе адходаў. Часам хтосьці знаходзіць яе зарана. Часам запозна. Тым не менш, яна застаецца шэдэўрам, нават калі ніхто яе ніколі не чытае.

Нядаўна, прыбіраючы на гарышчы маёй хаткі, я наткнуўся на трухлеючы ў халадзе і сырасці стус кніг. Даўно туды я не заглядаў. Адкінуў я мятлу. Кінуў анучу на падлогу. Узяў у руку адну, другую кнігу, і мае валасы натапырыліся на галаве. Як гэта так, чаму я іх аддаў на збуцвенне? Ах, так, выпхнулі іх з паліц на гарышча новыя кнігі, купленыя або атрыманыя ў падарунак. А і тых большае. Неўзабаве і яны апынуцца на гарышчы Гэта як з паслядоўнымі пакаленнямі людзей — адны саступаюць месца другім. Шкада адышоўшых, ды цешаць наступныя. Бачу, аднак, што на паліцах маёй бібліятэкі ўсё менш прыгожага пісьменства, усё менш і менш паэзіі. Змяніў я свае чытацкія густы. Падобна адбываецца, калі да чалавека паўзе старасць. І хай гэтак будзе, няхай паўзе. У старасці чалавек ахвотна вяртаецца да ўспамінаў. Да эмоцый дзяцінства і юнацтва. І вось зноў у маіх хваляваннях з'явіліся вершы Збігнева Сьлёнчкі, Надзеі Артымовіч і Янкі Леанчука. Адной слёзкай капнуў я на „Канец эпохі варвараў" Веслава Казанэцкага, другой — на **„Wiersze tutejsze"** Міры Лукшы. Адмёў з павуціння рэпрынт „Дудкі беларускай" Мацея Бурачка. Выпраставаў сагнутыя лісты брашураных зборнікаў паэзіі Віктара Варашыльскага, Восіпа Мандэльштама і (маё любімае) Тадэвуша Слівяка **„Czytanie mrowiska"**. Зборнік нарысаў **„W stronę Tarasiewicza"** Ганкі Кандрацюк захаўваўся цэлым. Падобна Ірэны Стэльмах прыгожыя **„Retrospekcje"**. На жаль, інтрыгуючыя вершы Кшыштафа Гедройця **„Drabina, szpaki, dachy i kominy"** надкусіла мыш. Над'ела загаловачную „лесвіцу". Прапаў таксама „шпак", ды думаю, што ён сам адляцеў. Шчасліва, асталіся „дахі" і „комін", і дзякуючы ім я змог зрэканструяваць цэлы надкушаны загаловак. Затое ў атуленні тоўстай кнігі **„Antologia de la literatura espanola"** я знайшоў рарытэт: **„Rytmy i rymy"** Тадэвуша Катарбінскага. Так, таго самага.... Ну што я магу сказаць пра ягоныя вершы больш? Хвалюючыя. Няхай, аднак, спеюць яшчэ на гарышчы.

**Міраслаў ГРЫКА**



## Вачыма еўрапейца

# Рэальнасць цэнзураваная

Толькі нядаўна, дзякуючы інфармацыі, якую мне перадала, не хаваючы свайго абурэння, кіраўнік прэстыжнай ва ўсёй краіне беластоцкай мастацкай галерэі „Арсенал", я даведаўся пра скандал, які адбыўся ў Бялай-Падляшскай. 8 лістапада ў тамашняй галерэі „Падляшская", што дзейнічае пры Бяльскім цэнтры культуры, павінен быў адбыцца вернісаж выставы „Рэальнасць гульні" прызнаных за межамі сваёй краіны мастакоў з Беларусі, у тым ліку ўжо культавай групы „Бергамот", сяброўкай якой з'яўляецца куратарка — як аказалася — неадбыўшайся выставы Вольга Маслоўская. Праз Моніку Шэўчык атрымаў я адкрыты ліст, які па гэтай прычыне напісала спадарыня куратарка. Я прыводжу яго амаль у поўным аб'ёме, таму што мяне ён узварухнуў: „За тыдзень да адкрыцця выставы ў галерэі мы атрымалі паведамленне ад каардынатара, што гэтая выстава не можа быць паказана па побытавых (літаральна сказана: **„drastycznych"**), і палітычных матывах, што выклікала глыбокае здзіўленне ўсіх удзельнікаў выставы. Цэнзура праіснавала ў галерэі „Падляшская", выклікаючы заклапочанасць, тым больш, што амаль усе прапанаваныя працы былі неаднаразова паказаны ў Беларусі (!), Літве і Польшчы на прэстыжных выставах і падобныя папрокі ў іх адрас ніколі не гучалі, а таксама, на нашу думку, вышэйзгаданыя прэтэнзіі некарэктныя і беспадстаўныя. Мы спадзяемся, што такую неадэкватную рэакцыю галерэі выклікаў шэраг выпадковых супадзенняў і непаразуменняў падчас перамоваў з галерэяй і беларускім консульствам у Бялай-Падляшскай, з якім галерэя „Падляшская" падтрымлівае блізкі кантакт, а не нечакана жорсткая для дэмакратычнай дзяржавы цэнзура і невытлумачальна раптоўнае зніжэнне кампетэнцыі работнікаў гэтай раней паважанай установы".

Прадстаўнік галерэі Раман Пянькоўскі ў заяве для Радыё Рацыя сказаў:

— Мы не збіраемся займацца палітыкай, каб не абражаць адзін ці другі бок, бо прадстаўляем мастацтва, а не маніфесты. Псаванне адносін з кім заўгодна не ў нашых інтарэсах, бо гэта выставачная зала горада. У горадзе ёсць консульства, улады горада цудоўна з ім супрацоўнічаюць. Мы не можам палохаць нейкім зместам, пра які не ўсё ведаем. Гэта не нейкая справа вартая міжнароднай увагі, ці нейкая палітычная, а проста выстава не адбылася, бо была неадпаведна арганізавана.

Галерэя „Падляшская" вырашыла забараніць паказ выставы за тыдзень да яе адкрыцця. На двух мастакоў наклалі эмбарга: на працы Міхаіла Гуліна, што, маўляў, носяць палітычны характар, і на калаж Антаніны Слабодчыкавай, які, маўляў, з'яўляецца парнаграфічным. Абедзве працы можна знайсці ў інтэрнэце. Па словах куратаркі, паказ без іх астатніх прац не будзе мець сэнсу. Вольга Маслоўская сказала Рацыі:

— Мы ўсе не згодныя з тым, што названыя работы можна забараніць па нейкіх лагічных прычынах. Такіх прычын няма. І такая неадэкватная рэакцыя галерэі, мы лічым, — вынік празмернага ўплыву беларускага консульства ў Бялай-Падляшскай (...). Падрыхтоўка да выставы ішла больш-менш спакойна, і праблемы пачаліся толькі пасля таго, як мы паспрабавалі дамовіцца з консульствам пра дапамогу ў транспарце работ, каб перасячы мяжу па спрошчанай працэдуры, таму што атрымліваць дазвол на вываз прац за мяжу ў Міністэрстве культуры — гэта працэдура доўгая, дарагая, і займацца ёю ў нас не было магчымасці. „Шэдэўраў", для якіх патрабаваўся б дазвол, у нас не было, але на ўсякі выпадак мы хацелі падстрахавацца. Дарэмна я пайшла па гэтым шляху.

Успомніла таксама: — Я звязалася з віцэ-консулам па культуры і ідэалогіі. Пры першай сустрэчы ён пачаў мне казаць, што мы не павінны забываць, што цэнзура ёсць нават у Польшчы, што на гэтай выставе не павінна быць такога, што зневажае дзяржаўнасць, ніякіх кантраверсійных тэм не павінна быць (...). У апошнім лісце (з Бяльскага цэнтра культуры — М. Х.) за тыдзень да выставы напісалі, што галерэя і Бяльскі цэнтр культуры, якому яна падпарадкоўваецца, вельмі шануюць сяброўскія адносіны з беларускім консульствам і перажываюць, што выстава можа сапсаваць гэтыя адносіны. Уся справа — гэта вялікі скандал, якога нельга прамаўчаць. Я думаю, што польскія галерэі ў рамках супрацыву такой практыцы павінны адкрыта давесці да паказання ў іншых гарадах Польшчы, у тым ліку (магчыма, перш за ўсё) у Беластоку забароненай выставы „Рэальнасць гульні". Як мне сказала Моніка Шэўчык, каляндар выстаў у „Арсенале" на наступны год ужо ад доўгага часу цесна запоўнены, але таксама дадала ў надзеі, што падумае, як у Беластоку (ці ў іншым горадзе рэгіёна) „Рэальнасць гульні" паказаць.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Старое Корніна

## — святое месца і цудатворная ікона

**У час майго дзяцінства жылі яшчэ людзі, якія памяталі перыяд перад Першай сусветнай вайной, калі праваслаўныя вернікі з наваколля і паломнікі ішлі пяшком або ехалі на фурманках у Старое Корніна, каб пакланіцца цудатворнай Старакарнянскай іконе Прасвятой Багародзіцы, памаліцца перад ёй і папрасіць у Багародзіцы дапамогі ў хваробах і розных жыццёвых выпрабаваннях.**

Частка вернікаў, якія памаліліся ў старакарнянскай царкве перад іконай Божай Маці і напіліся вады з крыніцы, атрымлівалі дапамогу, некаторыя нават адразу. Сведчылі аб гэтым, між іншым, кастылі, якія выздараўеўшыя пакідалі ў царкве. Намаганнем прафесара Антона Мірановіча Беларускае гістарычнае таварыства выдала «Кнігу цудаў перад іконай Божай Маці ў Старым Корніне адбыўшыхся». Апісаны ў ёй цуды, што здарыліся ў гэтай вёсцы ў 1716-1724 гадах. Цудатворную ікону Божай Маці настаяцель царквы са Старога Корніна забраў з сабой, адпраўляючыся ў 1915 годзе разам з вернікамі ў бежанства. У час рэвалюцыйнай завірухі ікона загінула і зараз яе лёс невядомы. Два гады таму была напісана новая старакарнянская ікона Божай Маці як копія Ляснянскай іконы Багародзіцы, бо мяркуецца, што даўняя старакарнянская ікона была менавіта копіяй ляснянскай іконы. Зараз гэтая нованапісаная ікона Прасвятой Багародзіцы знаходзіцца ў Міхайлаўскай царкве ў Старым Корніне і перад ёй сталі зноў маліцца вернікі. Аднак не было перапынку ў кульце святога старакарнянскага месца і, вярнуўшыся з бежанства, прыхаджане сталі маліцца перад іншымі іконамі, а вернікі ўвесь час масава наведваюць Старое Корніна ў час святкавання ў гонар святой праведнай Анны.

— Яшчэ ў XVIII стагоддзі старакарнянскую царкву паломнікі наведвалі намнога больш масава, чым Гару Грабрку, дзе таксама здараліся цудоўныя выздараўленні. Людзі розных веравызнанняў прыбывалі памаліцца перад Старакарнянскай іконай Божай Маці і папрасіць дапамогі ў хваробах або жыццёвых справах ажно з Камянца, Кобрына, Пінска, Любліна, ці нават з-пад Познані, — сказала Іаанна Сапяжынская, настаўніца гісторыі ў Комплексе прафесійных школ у Гайнаўцы, якая перад мясцовымі жыхарамі выступіла 6 снежня ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы з дакладам «Гісторыя Марыйнага санктуарыя ў Старым Корніне». Іаанна Сапяжынская з'яўляецца аўтарам прыгожа выдадзенага фотаальбома «Вітава. Вобраз мінулага стагоддзя», надалей збірае матэрыялы пра мінулае роднай вёскі Вітава і Старакарнянскага прыхода, аб якім напісала ўжо магістарскую працу і плануе выдаць манаграфію. Сустрэча была наладжана ў рамках рэалізаванага белмузеем праекта «Кірыліцай пісанае», а вяла яе музейная бібліятэкарка Анджаліна Масальская.

За гісторыкамі XIX стагоддзя Іаанна Сапяжынская таксама лічыць, што даўняя Старакарнянская ікона Божай Маці была копіяй выкананай у камені Ляснянскай іконы Прасвятой Багародзіцы, якая зараз знаходзіцца ў Францыі (у мясцовасці Chauvincourt-Provemont).

— Паводле захаваных расказаў, старакарнянская ікона аб'явілася пастушкам на дрэве і мяркуецца, што парасткам ад яго з'яўляецца сённяшняя вялікая таполя, якая расце на царкоўным цвінтары ў Старым Корніне. Каля яе знаходзілася крыніца з цудатворнай вадой, якая высахла пасля меліярацыі. Старакарнянская ікона Прасвятой Багародзіцы з'яўляецца копіяй Ляснянскай іконы Божай Маці, якая аб'явілася ў 1683 годзе і толькі пасля гэтай даты можам гаварыць пра карнянскую ікону. Сваю цудадзейнасць Старакарнянская ікона Божай Маці праявіла ў 1709 годзе, калі мясцовыя вернікі ўцалелі ад эпідэміі чумы. Пасля гэтага здарэння культ іконы са Старога Корніна стаў хутка пашырацца. Некаторыя бачылі яснасць ад іконы і жанчыну ноччу ў царкве, Маці Божую. Людзі побач іконы запальвалі свечкі. Спецыяльная камісія апісала цуды, якія здарыліся перад старакарнянскай іконай у 1716-1724 гадах і яны былі сабраны ў «Кнігу цудаў», якую апублікаваў прафесар Антон Мірановіч, — расказала Іаанна Сапяжынская. Паломнікі прыбывалі памаліцца перад старакарнянскай іконай і папрасіць дапамогі ў Багародзіцы ў розныя дні года, хаця найбольш масава прыходзілі ў прыхадскія святкаванні.



Іаанна Сапяжынская на сустрэчы ў белмузеі

— З захаваных запісаў відаць, што людзі найчасцей аздараўляліся ў пачатку багаслужбы, калі лопалі пузыры на целе, адвіваліся каўтуны і адбываліся іншыя аздараўленні. Некаторыя хворыя не атрымлівалі дапамогі адразу і чакалі яе па некалькі дзён, а нават некалькі тыдняў, затрымліваючыся на нейкі час у мясцовых прыхаджан. Людзі найчасцей ішлі ў паломніцтва са сваімі сямейнікамі або суседзямі, за хворых, якія не былі ў змозе самі дабрацца, ішлі іншыя асобы, а калі тыя аздаравелі, пасля самі дабіраліся ў Корніна, каб асабіста падзякаваць за дапамогу. Найбольш пілігрымаў састаўлялі сяляне, а менш было мяшчан і шляхты. На 1800 выпадкаў дапамогі, пасля малітваў перад старакарнянскай іконай, зафіксавана ажно 1773 здарэнні выздараўлення ад розных хвароб, а 17 чалавек выратаваліся ад злога духа. Людзі прыходзілі таксама прасіць выратаваць ад хвароб коней ці кароў, — гаварыла Іаанна Сапяжынская. — Людзі, што прыбывалі памаліцца перад іконай, набіралі таксама ваду з прыцаркоўнай крыніцы, якую пілі і абмывалі ёю хворыя месцы, пасля чаго таксама аздараўляліся. Паломнікі пакідалі ў царкве ў падзяцы за выздараўленне крыжыкі, медалікі, біжутэрыю, выявы вылітыя з воску або проста запальвалі свечкі перад іконай. Людзі пакідалі таксама грашовыя ахвяраванні, якія былі выкарыстаны на будову новай царквы, фундаванай у галоўным Янам Клеменсам Браніцкім. Найбольш вядомае здарэнне, якое адбылося перад старакарнянскай іконай, гэта выпадак з чалавекам сасланым у Сібір, якому пасля малітваў перад іконай зляцелі з ног кайданы, якія зараз вісяць у старакарнянскай царкве.



Святкаванне ў гонар святой праведнай Анны. У руках святароў новая Старакарнянская ікона Прасвятой Багародзіцы



— Важна нам, каб выдаць манаграфію Старакарнянскага прыхода, за якім такая доўгая і славутая гісторыя. Плануем ладзіць спатканні з жыхарамі, бо ад найстарэйшых можна яшчэ спісаць іх аповеды, — заявіў прысутны на спатканні войт Дубіцкай гміны Лявон Малашэўскі, жыхар Корніна.

Гісторыя прыхода ў Старым Корніне і Старакарнянскай іконы Божай Маці змясцоўна апісана ў кніжцы мітрафорнага протаіерэя Рыгора Сасны і матушкі Антаніны Троц-Сасны ў кнізе «Святыя месцы і цудоўныя іконы».

— Чаму ў «Кнізе цудаў» няма апісаных выпадкаў аздараўлення старакарнянскіх прыхаджан? — спытаў настаўнік белліцэя Ян Місеюк з Гайнаўкі і пачуў адказ, што выздараўленні мясцовых былі пэўна відавочнымі, а камісія хацела апісаць прыклады ад прыйшоўшых з далейшых мясцовасцей.

— Корніна было заснавана перад 1570 годам, а калі каля 1590 года ўзнікла Новае Корніна, то першае сталі называць Старым Корнінам. Першая царква ў гонар архістраціга Міхаіла і праведнай Анны і праваслаўны прыход у Корніне паўсталі ў 1631 годзе, а ў 1639 годзе парафія стала ўжо ўніяцкай. У 1733 годзе была збудавана новая царква, з тымі самымі патронамі, у 1892 годзе была збудавана сённяшняя царква праведнай Анны, на месцы найстарэйшага храма, а ў 1893 годзе была збудавана сённяшняя царква архістраціга Міхаіла, на месцы царквы з XVIII стагоддзя, — удакладніла Іаанна Сапяжынская.

Калі яшчэ ў канцы XX стагоддзя я рыхтаваў матэрыял у «Ніву», старажылы Старога Корніна ўспаміналі пра здарэнні са свайго дзяцінства і аповеды сваіх бацькоў аб шматлюдных святкаваннях у гонар святой праведнай Анны. У мінулым людзі масава ішлі ў Старое Корніна пяшком, а з наваколля дабіраліся таксама на фурманках, якімі пасля абстаўлена была ўся вёска. Некаторыя на каленях ўваходзілі ў храм, каб памаліцца перад старакарнянскімі іконамі.

Святкаванне ў гонар новай Старакарнянскай іконы Прасвятой Багародзіцы адбываецца цяпер у першую нядзелю пасля святкавання Успення Божай Маці. Аднак найбольш людзей збіраецца ў Старым Корніне 7 жніўня, на святкаванне ў гонар святой праведнай Анны.

— Магчыма, што знойдзецца даўняя Старакарнянская ікона Прасвятой Багародзіцы, якая можа ляжыць недзе ў музеі, неапісаная, — мяркуе Іаанна Сапяжынская.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

# Непрафесійныя мастакі адзначылі юбілей

**Падвядзенне вынікаў XX Агляду непрафесійнага мастацтва Гайнаўскай зямлі, арганізаванага Гайнаўскім домам культуры і адкрыццё конкурснай выставы адбылося 1 снежня ў юбілейнай атмасферы ў галерэі Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы. Мастакі, якія пастаянна прымаюць удзел у аглядзе, атрымалі ўзнагароды. У буклеце са здымкамі пераможных прац і вынікамі сёлетняга агляду змешчаны прозвішчы 207 мастакоў, якія на працягу дваццаці выпускаў мерапрыемства прэзентавалі сваю творчасць. Старшыя інструктары па справах мастацтва ГДК Анна Тарасюк і Зінаіда Якуць, якія непасрэдна займаюцца арганізацыяй гэтай мастацкай імпрэзы, больш дакладна падвялі вынікі дваццаці аглядаў, якія ў першых гадах адбываліся на бесконкурснай аснове.**


**Мікола Ягадніцкі**
(I месца па разьбе) са сваімі працамі і ўзнагародамі


**Ядвіга Вілюк**
(I месца па жывапісе)


**Мікола Яноўскі**
(II месца па жывапісе) узнагароджаны таксама за пастаянны ўдзел у аглядзе непрафесійнага мастацтва

— Спачатку наш агляд непрафесійнага мастацтва быў невялікім мерапрыемствам. Выстаўкі прац паказваліся ў камерных абставінах, у невялікай зале нашага дома культуры, які выйшаў з ініцыятывай арганізавання імпрэзы ў 1994 годзе, — заявіла Анна Тарасюк. — З часам мерапрыемства заваявала вялікае прызнанне ў мастацкім асяроддзі Гайнаўшчыны. Працы на агляд сталі дасылаць нават творцы з-па-за Гайнаўскага павета. На конкурсных выставах сталі паказваць лепшыя работы, бо ўсе не памесціліся б нават у вялікай галерэі Гайнаўскага белмузея.

— З нашых непрафесійных творцаў выраслі мастакі, якія сталі прафесійна займацца жывапісам і перасталі прымаць удзел у нашых аглядах. Гэта Пётр Гаган, Павел Верэмюк, Данель Грамацкі ці Станіслаў Жывалеўскі. Некаторыя з нашых творцаў пайшлі з жыцця. Нядаўна памерлі Генрык Курадчык, Балеслаў Гвоздзік і Малгажата Мруз, аб якіх мы памятаем, — сказала Зінаіда Якуць. — З нагоды нашага юбілею мы прызначылі спецыяльныя ўзнагароды непрафесійным мастакам, якія прынамсі дзесяць разоў прэзентавалі свае работы на нашых аглядах: Тамары Кердалевіч (прэзентавала 14 разоў), Міколе Яноўскаму (11 разоў), Д'яне Янчук (10 разоў) і Дануце Станішэўскай (10 разоў).

— Другога агляду непрафесійнага мастацтва няма нідзе ў наваколлі. Бліжэйшы адбываецца ў Беластоку і таму нашае мерапрыемства такое важнае для жыхароў Гайнаўшчыны, якія актыўна займаюцца мастацтвам. Адны з іх маюць магчымасць упершыню паказаць свае працы для шырэйшай публікі і прадставіць іх для ацэнкі прафесійных мастакоў, а іншыя, якія даўжэй займаюцца жывапісам ці разьбой, маюць магчымасць параўнаць свае работы з працамі іншых мастакоў і спытаць камісію пра свой рост, — сказала старшыня конкурснай камісіі Іаанна Кярсноўская, якая сама займаецца жывапісам і графікай.

Адкрываючы юбілейны агляд непрафесійнага мастацтва бургамістр Гайнаўкі Юры Сірак звярнуў увагу на высокі ўзровень прэзентаваных на выставе прац, заахвочваў мастакоў разгортваць свае ўмеласці і прымаць удзел у чарговых выпусках конкурсу. Дырэктар ГДК Расціслаў Кунцэвіч гаварыў пра цікавыя працы і новыя тэхнікі, прэзентаваныя на экспазіцыі.

У галіне разьбы на Гайнаўшчыне ёсць моцныя творцы і частка з іх запрэзентавала свае працы на аглядзе. Перамог Мікола Ягадніцкі, гайнавянін родам з Чыжоў, які заняў першае месца. На выставе прэзентуюцца ажно 4 яго працы ў драўніне, сярод якіх ёсць узнагароджаная скульптура «Адам і Ева».

— Я сур'ёзна займаюся разьбой, пачынаючы з вучобы ў сярэдняй школе, калі ўжо дабіўся перамогі на агульнапольскім скульптурным конкурсе. Першыя работы я выконваў будучы яшчэ вучнем падставовай школы ў Чыжах. У мінулым годзе я стаў таксама пераможцам на аглядзе. Найчасцей выконваю постаці, — сказаў Мікола Ягадніцкі.

Мікола Корх з Кархоў, распаложаных побач Вітава, атрымаў сёлета вылучэнне за разьбу дзяўчынкі ў драўніне «Не кранай мяне». У 2010 годзе быў ён лаўрэатам першага месца, а ў 2009 і 2012 гадах — заняў другое месца. Вылучэнне атрымаў таксама Мячыслаў Дудзін за работу ў драўніне з мужчынам "Вітайце».

Першае месца сярод жывапісцаў атрымала Ядвіга Вілюк з Гайнаўкі за алейную працу «Зімовая дарога». Аўтарка запрэзентавала свае работы на аглядзе трэці раз.

— Сёння я вельмі рада, што камісія прызначыла мне ажно першае месца і цешуся, што іншым падабаюцца мае работы. Не спадзявалася я такой узнагароды, бо раней атрымала толькі вылучэнне. Я нядаўна пачала маляваць, перайшоўшы на пенсію, і вельмі люблю займацца маляваннем, перадусім краявідаў, — заявіла Ядвіга Вілюк.

Другое месца заняў жывапісец Мікола Яноўскі са Старога Беразова.

— Займаў я на аглядзе прызавыя месцы і рады, што сёлета прызначылі мяне другое месца. Аднак мне яшчэ даражэйшая ўзнагарода, якую я атрымаў за пастаянны ўдзел у аглядзе, пачынаючы з 2003 года. Гэта добры конкурс і я магу тут прыраўняць свае карціны да прац іншых жывапісцаў. Мне таксама цікава, што я павінен яшчэ паправіць у сваім варштаце работы. Добра было б, каб члены камісіі па чарзе аналізавалі працы паасобных мастакоў і гаварылі ім у чым трэба паправіцца, — гаварыў Мікола Яноўскі, якога ажно 4 алейныя карціны з пушчанскімі краявідамі трапілі на конкурсную выставу. Вылучана была праца, якая паказвае вываз драўніны з пушчы, на перапрацоўцы якой і была збудавана Гайнаўка.

Ранейшы ўдзельнік агляду Данель Грамацкі вёў у белмузеі майстар-класы па маляванню і рысаванню. Яго вучнем быў, між іншым, Міраслаў Хіліманюк, які ў мінулым годзе заняў першае месца ў катэгорыі жывапісу, а сёлета апынуўся на трэцім месцы. Быў ён вылучаны за алейную работу «Звозка сена». Вылучэнні ў галіне жывапісу атрымалі Славамір Рыбак, Д'яна Янчук, Яраслаў Гацкевіч, Юры Лукашук і Галена Шчыгал. Станіслаў Паскробка атрымаў узнагароду за працу «Эка 3», выкананую ўласнай тэхнікай, а вылучэнні ў гэтай катэгорыі камісія прызначыла Веславу Каноплю і Юрыю Жукоўскаму.

У катэгорыі рысунка першае месца заняў Януш Кулеша з Гайнаўкі за «Партрэт».

— Я карыстаюся рознымі тэхнікамі. У гэтым годзе данёс я на конкурс рысункі, бо, вярнуўшыся з-за мяжы, не было ўжо часу намаляваць новыя алейныя працы. Люблю маляваць краявіды і раней паказваў іх на аглядзе. Свае працы прэзентую таксама на іншых аглядах і бачу, што гайнаўскі конкурс не адстае ад іншых. Прэзентуюцца тут працы на прыстойным мастацкім узроўні, — сказаў Януш Кулеша, які дзевяць раз прыняў удзел у гайнаўскім аглядзе.

Другія месцы ў катэгорыі рысунка занялі Тамара Кердалевіч з Чаромхі за «Партрэт жанчыны» і Яцак Некраш за працу з абстрактнай тэмай.

— Конкурсны агляд вельмі цікавы. З году ў год большае колькасць удзельнікаў і павышаецца ўзровень прэзентаваных прац. Відаць, што побач паляпшэння тэхнікі жывапісцы і разьбяры становяцца больш уражлівымі на акружаючы свет і свае эмоцыі ўдала пераліваюць на прэзентаваныя тут работы. Цешыць, што паяўляюцца карціны новых жывапісцаў, што ўдзельнікі папярэдніх аглядаў дабіваюцца ўжо перамогі, напрыклад, Ядвіга Вілюк у гэтым годзе заняла першае месца, — сказала Агнешка Ціханюк, спецыяліст па мастацтве ў Гайнаўскім белмузеі.

У катэгорыі творцаў-інвалідаў узнагароды атрымалі Вітальд Алексяюк, Зофія Цвікоўская, Лешак Грыгарук, Кшыштаф Юрчук, Януш Лісевіч і Вальдэмар Падзеўскі, якія займаюцца ў Павятовым асяродку дапамогі ў Гайнаўцы і ў Доме сацыяльнай дапамогі «Ракітнік» у Белавежы. Выканалі яны тканіну, рысунак і інтарсію. Творцы з абмежаваннямі патрапілі ўдала перадаць свае эмоцыі на працах, выкананых на прыстойным мастацкім узроўні.

Разам на выставе паказваюцца 83 работы 34 вылучаных непрафесійных творцаў (на агляд заяўлены былі 123 працы).

— Сёлета на выставе прэзентуецца многа цікавых мастацкіх работ. Асобы, якія цікавяцца жывапісам, рысункам ці скульптурай, могуць убачыць тут разнастайныя прапановы, — дабавіла старшыня камісіі Іаанна Кярсноўская, мастачка з Гайнаўшчыны.

Працы ацэньвалі таксама спецыяліст па мастацтве Крыстына Куніцкая, мастак Адам Сьлефарскі з Ваяводскага асяродка анімацыі культуры ў Беластоку і гайнаўскі мастак, разьбяр, выкладчык Політэхнічнага інстытута ў Беластоку прафесар Яраслаў Пэршка.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

# Чэслаў Дзеляк піва здзелаў!

Найлепшае піва дамашняй работы, паводле бровара ў Жыўцы, паўстае ў Вылудках, што пад Карыцінам. З ліку 161 піваварa, якія прымалі ўдзел у конкурсе „Birofilia-2013", перамог рэцэпт Чэслава Дзеляка. Смак узнагароджанага піва, зваранага ў Вылудках, неўзабаве аплыве цэлую Польшчу. 6 снежня адбылася вялікая прэм'ера піва „Брацкае Імперыял ІПА".

Чэслаў Дзеляк жыве ў Вылудках — вёсцы распаложанай пры дарозе з Карыціна ў Саколку. Сам працуе настаўнікам у Сельскагаспадарчым тэхнікуме ў Янаве. Піва пачаў рабіць, выкарыстоўваючы дамашнія прылады, якія кожны мае ў сваёй хаце, па празаічнай прычыне — піва патрэбнае было на дзень нараджэння ягонага бацькі. Сёння мае ўжо за сабою каля 300 варэнняў залатога напітку.

Пакуль што найбольшым дасягненнем у галіне піваварства Чэслава Дзеляка была перамога ў конкурсе „Birofilia-2013". Конкурс гэты мае 20-гадовую традыцыю. Лічыцца ён адным з найбольшых у Польшчы святаў піваварства і культуры піцця піва. Штогод у бровар у Жыўцы з'язджаюцца сотні гурманаў піва, піваварaў, рамеснікаў, калекцыянераў металічных каўпачкоў, бутэлек, а таксама майстроў піваварства. Перад астатнімі сёлета, быў нялёгкі выбар найлепшага напітку з ліку 432 гатункаў, якія прымалі ўдзел у конкурсе. Журы, пад кіраўніцтвам Кшыштафа Ляхоўскага, старшыні Польскага таварыства дамашніх піваварaў, вырашыла, што галоўнай узнагароды заслугоўвае піва „Imperialne India Pale Ale (IPA)" Чэслава Дзеляка. „Imperial IPA" нібыта вазілі на сваіх караблях у Індыю брытанцы. Аднак дагледзеліся, што піва хутка псуецца. Каб прадухіліць гэтую загану, дадавалі да піва больш хмелю, які мае антыбактэрыйныя ўласцівасці. З часам рэцэпт пайшоў у забыццё. Параўнальна нядаўна ўзнавілі яго амерыканцы.

Узнагародай у конкурсе „Birofilia-2013" была магчымасць варэння дамашняга піва „Imperial IPA" ў Брацкім замкавым бровары ў Цешыне. Такім чынам Чэслаў Дзеляк пры дапамозе піваварaў з Жыўца наварыў 450 гекталітраў піва паводле свайго рэцэпту. Каб зрабіць бровар у стылі „Imperial IPA", вылудскі півавар выкарыстаў 7 гатункаў хмелю (шэсць амерыканскіх і адзін еўрапейскі) і 4 гатункі соладу. Упершыню таксама адбылося хмяленне на холадна, так што піва павінна быць надзвычай акуратным.



Піва „Imperial IPA" Чэслава Дзеляка даступнае ўжо ў крамах і рэстаранах ва ўсёй Польшчы. Але гэта яшчэ не ўсё, чаго хацеў бы дасягнуць півавар з Вылудак. Ягонай марай, якую мае намер здзейсніць, з'яўляецца адкрыццё бровара ў роднай вёсцы. Паводле мясцовых аматараў піва вытворчасці Чэслава Дзеляка, пасля першага глытка самі ціснуцца на вусны словы: „О, Пане!".

**Уршуля ШУБЗДА**

**Фота з калекцыі Чэслава Дзеляка**

**Віктар Швед**

## Мая зямля

*Прыгожыя надта лугі і палі,*
*Каларыт дарагіх асяродкаў.*
*Не мог бы прызнацца да гэтай зямлі,*
*У якой не было б маіх продкаў.*

*Прадзеды і дзяды, дарагія бацькі*
*Тут спяць вечным сном на пагосце.*
*Усе беларусы – мае землякі,*
*Яны ж не прышэльцы, не госці.*

*Яны ж тут знаходзяцца ад вякоў,*
*Тут родзяцца ўсцяж, уміраюць.*
*Да мовы айчыннай жывая любоў,*
*І тут іх зямелька святая.*

*Такі час у нас, умірае сяло,*
*Праходзяць адмоўныя змены.*
*Суседзі хацелі б, каб больш не было*
*У нашай краіне нацменаў.*

## Знікае мой народ

На мове чужой
гаворыць родны народ.
Чужыя народы
гавораць на родных мовах.

***Таццяна Сапач***

*Народ пагарджаны мой*
*Гаворыць на мове чужой.*
*Рэчаіснасць сёння такая –*
*Роднай мовы нас пазбаўляюць.*

*А ўжо ў сярэдневякоўі*
*Была беларуская мова.*
*Карыстаўся ёю няспынна*
*Славуты Францішак Скарына.*

*Без мовы сваёй заўсёды*
*Знікаюць, вядома, народы.*
*Знікае таксама штогод*
*Наш беларускі народ.*

*Гаворыць народ твой, Шведзе,*
*На мове сваіх суседзяў.*
*Суседзі абавязкова*
*Гавораць на родных мовах.*

## Сусветы

*Бясконцасць высланая*
*арыгінальным нябытам*

*Фракталы сусветаў у віры*

*Трансцэндэнтная песня*
*па-над усе хары*

*Ніць як нерв аплятае*
*жывую тканку*

*У хаосе лад ведае ўласнае*
*імя і намер*

***Барыс Руско***
*2.05.2013 г.*

## Падковы

*У галопе існуе ігра капытоў*
*падковамі*
*У падкове*
*жар топкі*
*удар молата*
*і пот каваля*
*Заіскрыўся камень у абдымках*
*падковы*

***Барыс Руско***
*2.06.2013 г.*

*Пераклаў з польскай мовы Віктар Швед*

## Шэрая рэчаіснасць...

Аб тым, што Чаромха памірае натуральнай смерцю, бачна штодзень. Пустуе станцыя, нявыкарыстаны трохпавярховы тэхнічна-адміністрацыйны будынак, пуці зарастаюць пустазеллем, абмежаваны рух цягнікоў ва ўсіх напрамках. Не відаць новага будаўніцтва. І калі б не еўрасаюзныя сродкі, бедненькі гмінны самаўрад не змог бы рэалізаваць ніводнай інвестыцыі. А як жывецца людзям? Зaглянем на рынaчак. Збіраецца ён па пятніцах і суботах. Пустэча. Адны купцы. Кліентаў на пальцах можна злічыць. Адно да аўтамабіля з уцэненымі хлеба-булачнымі вырабамі чарга выстройваецца пры поцемках. Варта. За 8 зл. можна купіць мяшочак салодкага пячэння, а за 7 зл. такі ж мяшочак хлеба.

Падобна справа маецца ў гмінным асяродку здароўя. Чэргі выстройваюцца да сямейнага лекара. Хваравітае цяперашняе грамадства. І аб гэтым хачу некалькі слоў сказаць. Каб пакарыстацца паслугай лекара-спецыяліста ў Беластоку, дык трэба затраціць прынамсі 12-14 гадзін, бо так курсіруе адзіны ў суткі цягнік. Адпраўляецца ён у Беласток у 5:35, а вяртаецца ў 17:26. Хадайнічаюць чарамшане аб вяртанні цягніка, які адпраўлЯўся ў 6:43, але Рэгіянальныя перавозы няўмольныя. Так быць павінна! — лічаць. Канец і кропка. Ды і Маршалкоўская ўправа сцяной стаіць за перавозчыкам...

З даездам да гайнаўскіх спецыялістаў справа не лепш маецца. І хоць цягнік адпраўляецца пазней (у 10:09), хваравіты пенсіянер трапляе на іншую перашкоду. Прыпынак гарадской камунікацыі ў Гайнаўцы знаходзіцца на процілеглым баку станцыі. Каб падацца ў шпіталь, дык неабходна падняцца на трох'ярусны чыгуначны віядук, спусціцца па лесвіцы ўніз, затым прайсці на прыпынак. А гэта ўжо складаная справа хвораму старэчу. Праблему я раней кранаў, але засталася яна нявырашанай. Гайнаўскія радныя тлумачаць, што немагчыма прадоўжыць лінію гарадскога аўтобуса на вакзал, бо няма грошай. Эканоміка, значыцца, не дазваляе. Памойму, гэта такая адмоўка. Не лічыцца тут ніякая эканоміка, гэта звычайны капрыз упраўляючых. Сумнае, але праўдзівае!..

## Гмінная статыстыка

У Чаромхаўскай гміне на канец лістапада 2013 г. пражывала 3 500 жыхароў. Паводле гміннай статыстыкі, сёлета нарадзілася 15 дзетак, памерла 45 чалавек, а шлюб заключыла 14 пар. Адпаведна да мінулага года лік жыхароў паменшыўся на паўсотню чалавек. Афіцыйна статусам беспрацоўнага ў лістападзе карысталася 219 асоб. У гэтым жа месяцы працаўладкавалася восем чарамшан...

У Павятовай установе працы ў Гайнаўцы было зарэгістраваных 2 265 беспрацоўных. Значны лік насельніцтва без працы зафіксаваны ў Нараўчанскай гміне — 239 чалавек, у Нараўскай — 202 асобы і ў горадзе Гайнаўцы — 1 041. У Гайнаўскай гміне зарэгістраваны 162 беспрацоўныя.

**Уладзімір СІДАРУК**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

Зорка
для дзяцей і моладзі

# У Нараўцы бачылі Дзеда Мароза

Добры дзень, Зорка!

Пішуць Табе вучні трэцяга класа з Нараўкі. Мы на ўроку гаварылі пра зіму і Дзеда Мароза. Аказалася, што ўсе яго бачылі...

***Кубусь*** убачыў на панадворку яго сані, а потым пад ёлкай ён знайшоў „жалкі”. ***Оля*** ўгледзела на снезе сляды вялікіх ботаў, нумар 46 або 48. Гэта ж былі сляды Дзеда Мароза! ***Караліна*** запамятала як Дзед Мароз вымае з сумкі дзве лялькі. ***Кінга*** памятае як ён паклаў пад ёлку падарунак. А ***Аня*** прыкмеціла як адчынілася акно на балкон. Пад ёлкай нехта паклаў падарункі. ***Нінка*** таксама сказала, што калі ўсе былі ў сваіх пакоях, то адчынілася акно ў пакоі, дзе стаяла ёлка. Пад дрэўкам былі падарункі.

***Алек*** праз акно ўбачыў як Дзед Мароз ад'язджае на санях. ***Мартынка*** знайшла раніцай падарунак у боце. Яна ведае, што гэтак не зрабілі б бацькі. ***Шымэк*** таксама ведае, што Дзед Мароз уваходзіць акном. ***Томэк*** ніколі не бачыў Дзеда Мароза, але ён ведае адно: каб ён прынёс падарак, трэба абавязкова паставіць ёлку і пад-рыхтавацца да свята!

**Вучні трэцяга класа Пачатковай школы ў Нараўцы**



## Зімой у лесе

*Светлы, аснежаны лес. Магутныя дубы і меднастволыя сосны, абсыпаныя снегам, стаяць нерухома ў мёртвым сне. Не варухнецца ні адна галінка, быццам усё застыла навек... А вось як зрасліся кашлатая елка з бярозкаю, і елка, як рукою, абняла суседку... Аберагае... Маленькія елкі, знясіленыя пад цяжарам снегу, прыгнуліся.*

*А ў бары за гарой стук сякер і шоргат піл. Карычнева-сівая сасна пахіснулася. Дрывасекі апіраюцца сякерамі аб камель, як толькі можна дастаць над сабою, і яна плыве верхавінай уніз. Цярэбячы голле ўсяму, што трапляецца ёй па дарозе, магутная прыгажуня падае ў снег. На ране буйныя, як слёзы, празрыстыя кроплі жывіцы...*

*Далей, на палянцы, воўчы след. Шэры прайшоў над абрывам і, выбраўшы месца, спусціўся ў яр, грузнучы ў глыбокім, без цвёрдай скарынкі, снезе.*

*Пад вечар неба пацямнела. Зноў пачаў церушыць снег і морак не гусцеў, а калыхаўся дрыготкаю сеткаю. Ціха шумелі верхавіны сосен, і, здавалася, выразна чуўся мяккі шолах снегападу.*

***Янка ЦЕЛУШЭЦКІ***

Барбара Дамброўская, Пляньты, школа ў Міхалове

## Новы год

Яшчэ хвіліна, адзін крок
і ўвойдзеш у Новы год!
Хай жыццё з горкі ідзе,
Хай вецер у вочы не нясе,
Здзяйснення мараў, многа прыгожых хвілін,
Шчасця, здароўя, удачы ўсім,
Хай заўсёды радасць у сэрцах будзе!



## Зняволенае сонейка

Зняволілі хмары сонейка
За замкнёнай брамай.
Сумуе ўся зямля.
Дзеткі засумавалі.
Спаглядаюць на птахаў,
які гнёздаў шукаюць,
І просяць, каб сваім ключом
Неба адкрылі...

*Кацярына Харкевіч,*
*Мацейкава Гара, школа ў Міхалове*

## Увага, конкурс!!!

### Загадкі з роднай хаткі (№ 51-13)

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку” да 12 студзеня 2014 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

1.
Стаіць у лесе дрэўца,
пад ветрам лёгка гнецца,
а гронкі ягадак гараць,
і снегіры да іх ляцяць...
Хто здагадаецца,
як дрэўца называецца?
(а......)

2.
У якой пярыне
зайчык не прастыне?
Ля якой падушкі
ён пагрэе вушкі?
(с...)

Аўтар: Данута Бічэль-Загнетава

Адказ на загадкі № 49-13: елка, мяцеліца.
Узнагароды, пісьмовы набор, выйгралі Дамінка Календа з Бельска-Падляшскага, Магдалена Стоцкая і Паўліна Лаўнічук з Нараўкі. Віншуем!

# Таленавітыя і для сябе сардэчныя!

Гімназісты другога „ц” класа пайшлі на бельскі могільнік, каб прыбраць магілку патрона школы Яраслава Кастыцэвіча. Яраслаў Кастыцэвіч — адзін з самых важных і любімых беларусаў Падляшша. Ён — заснавальнік бельскай „тройкі” і белліцэя. У маладыя гады ён змагаўся пад бел-чырвона-белым сцягам за Незалежную Беларусь. Зараз у бельскай „тройцы” яму прысвяцілі асобны кабінет.

— Наш жэст вельмі ўразіў сям’ю Яраслава Кастыцэвіча, — успамінае выхавацелька класа Валянціна Бабулевіч. — За гэта мы атрымалі нечакана падарунак. Пяцьсот злотых. Грошы падарыў Аляксей Сычэўскі, зяць патрона школы. У класе ведалі як скарыстаць сродкі, дзякуючы якім хапіла на новы тэлевізар.

Добра, каб ідэя, прыдуманая ў другім „ц”, стала традыцыяй школы.

Пасля знаёмства з моладдзю ў нас не было сумненняў, што другі „ц” клас звычайна незвычайны. Пра сябе і сваіх сяброў крыху распавёў Кшысь Лушчынскі. Пра такіх як ён настаўнікі кажуць: малады геній. Кшысь — лаўрэат прадметных конкурсаў па беларускай, польскай і англійскай мовах, хіміі, матэматыцы, гісторыі і геаграфіі. Ён сам сказаў:

— Усе гэтыя прадметы для мяне таксама цікавыя.

— А якія любіш чытаць кніжкі?

І тут артымаўся не менш цікавы адказ:

— Люблю літаратуру жаху!

— Чаму?

— Бо яна мяне супакойвае.

У класе ганарацца дасягненнямі Наталлі Шацілоўскай, Анэты Грыгарчук, Сары Лемеш, Патрыцыі Міхальчук — дзяўчат, якія паспяхова прынялі ўдзел у прадметным конкурсе па беларускай мове. Цешаць таксама мастацкія поспехі Олі Лажэцкай і Асі Хмур. Дзяўчаты — спявачкі беларускага калектыву „Капрыс”.

— А наша Ася нядаўна шакіравала Бельск, — адзначае выхавацелька. — Яна заваявала першае месца ў конкурсе патрыятычнай песні, які наладзілі з нагоды Свята незалежнасці Польшчы — 11 лістапада.

Урэшце прыйшла чарга на прэзентацыю спартсменаў. Тут пахвалілі Наталлю Хомчук, якая мае дасягненні ў гандболе і скачках з шастом.

Дасягненнямі ў гандболе ганарыцца таксама Грышка Зянкевіч, які раней праславіўся на прадметных конкурсах па гуманістычных прадметах.

У час нашай сустрэчы спрацавалі добрая энергетыка ды вялікая цікавасць да беларускіх тэм.

— Пра гэты клас я магу сказаць без перабольшання, што гэта сімпатычныя і сардэчныя для сябе маладыя людзі, — кажа выхавацелька Валянціна Бабулевіч.

Мы таксама ўлавілі незвычайнасць сустрэчы. Замест традыцыйнай стомы адчувалася лёгкасць і нешта прыгожае ў сэрцы.

**ЗОРКА**

## Вершы Віктара Шведа

### Слімакі

На сцяжыне ля ракі
Спаткаліся слімакі.
Запытаў адзін слімак:
— Чаму ракавіны брак?

А без ракавіны мой
Пачуў нейкі неспакой.
— Прызнаюся, мой дружок,
Я нядаўна з дому ўцёк.

### Мішка і кніжкі

Запыталі Мішку
Пры кніг цэлым стозе:
— Чаму твае кніжкі
Ляжаць на падлозе?

А на гэта мае
Ён адказ адразу:
— Ніхто не пазычае
Кніжак са стэлажам.

## Цені

Чарговы шэры лістападаўскі дзень зноў будзе такім як многія папярэднія — на пачатку школа, а потым візіт у шпіталі на анкалагічным аддзяленні. Лаўра Мілеўская ўтаропіла тупы зрок у шыбу аўтобуса, задумалася, калі і ці наогул калі-небудзь, другі і найважнейшы пункт плана яе дня зменіцца, выкрасліцца.

Хацела, як моцна хацела каб змянілася. Хацела, каб яе сябар перамог хваробу і выйшаў са шпіталя. Каб мог вярнуцца да сваёй ранейшай формы і зноў пайшоў з ёй у школу. Перапынкі праводзілі б зноў супольна, размаўляючы аб прачытаных у апошні час кніжках і слухаючы сваю любімую музыку. Хацела каб усё гэта вярнулася, каб было так як раней. Жыццё Лаўры завалілася, калі два гады таму ў Міхася выкрылі лейкемію, але тады яна ведала, што свет Левандоўскага знішчыўся намнога мацней і калі б не бландзінка, не вылез бы ён з-пад яго развалінаў. Гэта яна першая „дайшла да сябе”, узяла яго за руку і пачалася іх супольная вандроўка па краіне яго хваробы, поўнай болю і нягод. Лаўра была яго Анёлам-ахоўнікам, зоркай на яго небе, якая заўсёды свяціла ясным бляскам надзеі. Надзея і вера былі якраз найважнейшымі ў змаганні, у змаганні са смерцю.

Чым па сутнасці была смерць для гэтых двaіх, яшчэ дзяцей? Яшчэ два гады раней, нечым зусім абстрактным, цяпер аднак ужо больш рэальным і адчувальным. Нечым, што павольна, метадычна ператваралася ў іх цені, якія спачатку толькі ціхенька тапталіся за імі. Яны адчувалі іх прысутнасць, але пакуль цені паводзілі сябе спакойна, не звярталі на іх увагі. І толькі вечарамі, гледзячы праз акно на мяняючы свой выгляд у залежнасці ад пары года Беласток, адчувалі на шчоках яе халодны подых. Але ўмелі яе прагнаць. Закалыхаць, зняволіць. Яшчэ на хвіліну, яшчэ на імгненне...

*(працяг будзе)*

**Ева АВЯРЧУК,**
***Бельск-Падляшскі***

## Польска-беларуская крыжаванка № 51

Запоўніце клеткі беларускімі словамі паводле значэнняў. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 47:

Забава, буш, сам, пярынка, смятанка, рыс, Ян, астра. Песня, ар, пяро, пяты, раса, сын, банкет, думка, за.

Узнагароды, набор аўтаручак, выйгралі **Вікторыя Барэчка, Паўліна Лаўнічук, Аня Бляўская, Алек Чарнецкі** з Нараўкі, **Магдалена Хвашчэўская, Якуб Нікіцюк, Анеля Хмур** з Бельска-Падляшскага, **Марыюш Красько** з Арэшкава, **Алівія Кузьміцкая** з Шудзялава, **Оля Пугацэвіч** з ПШ № 4 у Беластоку. Віншуем!

| | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Nagroda / Okno | Kolejka | | | | Halo | | Zgoda / Ogród | Kosiarka | |
| Pępek | Rada / Szum | | | | | Agata | Pieniądze | | | | | |
| Szyk | | | | Czas / Adam | | Głóg | | | | | | |
| Nagroda | | | | | | | | | | | | |
| | | Oda | | | | Jan | | Orzeł | | | | |
| Wspomnienia | | | | | Kubuś | | | | | | | |
| | | | | | | | | | Dwa | | | |

# З ценю тэатральнай дэкады

**Памяці беларускіх артыстаў, якія сталі ахвярамі рэпрэсій, прысвяціў сваю кнігу на польскай мове „Teatr białoruski 1920-1930. Odrodzenie i zagłada" Андрэй Масквін. Яе прамоцыя на днях адбылася ў некалькіх гарадах Польшчы, у тым ліку ў Беластоку, а таксама ў Нацыянальным тэатры імя Янкі Купалы ў Мінску. Яе з'яўленне на рынку супала з выпускам у Радзыне-Падляшскім першай на польскім рынку анталогіі сучаснай беларускай драматургіі „Лабірынт", а прамоцыя ў сталіцы Падляшша папярэдзіла прэм'еру п'есы «ПустаЯ», аб якой мы паведамлялі тыдзень таму.**



Андрэй Масквін (справа)

**Андрэй Масквін** (1963 г. нар.) працуе на кафедры прыкладной лінгвістыкі Варшаўскага ўніверсітэта. Вядзе лекцыі па беларускай літаратуры, гісторыі і мастацтве ды па беларускай мове. Скончыў польскую філалогію ў Маскоўскім універсітэце. Нарадзіўся ў Нясвіжы. У час сустрэчы ў Лялечным тэатры ў Беластоку, у рамках рэгулярна адбываючыхся сустрэч „Тэатральнай кавярні", спаслаўся ў пачатку на месца свайго нараджэння:

— Напэўна, падсвядома гэтае месца паўплывала на мае адносіны з культурай. Беларуская мова, якую я вывучаў у школе, мела шмат паланізмаў, так што мне, верагодна, нядрэнна давалася навука польскай мове.

Рэцэнзентка кнігі праф. Магдалена Рашэўская пісала пра яе: „Дакументуе ён тэму на польскім грунце мала, ці нават зусім невядомую. Гэта быў перыяд выключна важны, таму што спалучаўся са спробай вызначэння нацыянальнай ідэнтычнасці. Аўтар паказвае не толькі мастацкі воблік тэатра, але ў першую чаргу ідэалагічныя і палітычныя заблытанасці, манеўраванне паміж патрабаваннямі ўлады, густам публікі ды пачуццём абавязку ў адносінах да нацыі". У сваю чаргу, яшчэ адзін з рэцэнзентаў, прафесар Пётр Міцнер, заўважыў: „Вельмі важна, што кніга апісвае займальны культурны феномен: усяго за дзесяць гадоў адбылося (ва ўмовах нашмат складанейшых, чым, напрыклад, ва Украіне) нацыянальнае адраджэнне, якое адразу ж выявілася ва ўзнікненні «ex nihilo» (з нічога — М. Х.) беларускага тэатра".

Кніга прысвечана выключна беларускаму тэатру ў сэнсе мовы і беларускай драматычнай творчасці з пункту гледжання жанру і аснавана на карпатлівых пошуках матэрыялаў, якія дакументуюць апісваны перыяд у асноўным у архівах, не толькі беларускіх, і ў прэсе. Апынуліся ў ёй гісторыя паасобных труп, рэпертуары, элементы апісання пастановак, справаздачы з пастановак беларускіх драматургаў у Польшчы зусім невядомых. Ва ўводзінах аўтар прыгадвае: „З 1920 года пачаўся інтэнсіўны працэс культурнай рэвалюцыі, які закрануў усе сферы культуры, у тым ліку тэатр. Беларуская культура мусіла ў паскораным тэмпе дагнаць агромную адсталасць (...). Беларуская ўлада мела задачу падняць значнасць беларускай культуры і стварыць умовы для яе развіцця. Кіраўнікі былі свядомыя, што беларускі тэатр з'яўляецца неад'емнай часткай нацыянальнай культуры і мастацтва". У ходзе сустрэчы ў Беластоку аўтар адзначыў:

— Я пачынаю з 1920 года, паколькі ў гэтым годзе быў адкрыты Беларускі дзяржаўны тэатр у Мінску, які дзейнічае да сёння, і названы ён у гонар Янкі Купалы. Гэта быў пачатак прафесійнага тэатра ў Беларусі. Раней дзейнічалі аматарскія і паўпрафесійныя тэатры. 1920 год таксама мае важнае значэнне, таму што гэта пачатак адраджэння культуры і беларускай дзяржавы, хоць некаторыя сцвярджаюць, што гэта другі этап гэтага адраджэння, таму што першы быў у 1905-1917 гадах, і нават трэці, успамінаючы канец XIX стагоддзя. У 1924 годзе афіцыйна была абвешчана палітыка беларусізацыі, а ў 1930 годзе наступіў яе канец і моцнае ўмяшальніцтва ўлады ў тэатр, які быў незалежным у гэтыя пяць-шэсць гадоў, і мог дазволіць сабе эксперыментаваць. У гэты кароткатэрміновы перыяд падагнана было тое, што было ў еўрапейскім тэатры ад XIX стагоддзя. Гэта ўсё дзякуючы запалу людзей, большасць з якіх пасля была прысуджана на ссылку і вывазку. Гэта кранала не толькі людзей тэатра, але кіно і літаратуры, якія ўдзельнічалі ў беларушчыне.

У кнізе чытаем: „Тэатральны рух пачаў актывавацца адразу пасля зняцця забароны на выкарыстанне беларускай мовы. Інтэнсіўна ўзнікалі аматарскія тэатры. Найбольшыя поспехі мелі Першая беларуская трупа Ігната Буйніцкага (1907-1913), Першае таварыства беларускай драмы і камедыі (1917-1920) і Беларускае таварыства артыстаў мастацтва (26.12.1919 — ліпень 1920)".

— Тэатр у гэты час выконваў некалькі функцый. Адной з іх была праца для развіцця беларускай мовы, — падкрэсліў Андрэй Масквін у беластоцкай „Тэатральнай кавярні".

Ён падкрэсліў асаблівую ролю для адраджэння беларушчыны, таксама ў тэатральным маштабе, якую ў гэты перыяд адыграў Інстытут беларускай культуры, дзейнічаючы ў 1922-1928 гадах, і пераўтвораны ў 1929 годзе ў Акадэмію навук Беларусі. У сваёй кнізе ён піша: „Гэта быў інстытут з характарам архіўным, даследчыцкім і садзейнічаючым, яднаючы ў сваіх радах вядучых прадстаўнікоў мастацкай і інтэлектуальнай эліты Беларусі, для якіх адраджэнне нацыянальнай культуры было прыярытэтным, часам нават сэнсам жыцця". Да задач Інбелкульта ўключаліся, сярод іншага, дапамога БДТ-1 і -2, трупе Галубка, дапамога ў падрыхтоўцы маладых акцёраў і прафесіяналаў у іншых галінах тэатра, вывучэнне гісторыі тэатра і заснаванне беларускага тэатральнага музея, пераклады твораў еўрапейскай класікі, павелічэнне рэпертуару для вясковых аматарскіх калектываў, дасканаленне сцэнічных твораў з пункту гледжання мовы (беларускай), развіццё тэатральнай тэрміналогіі.

У час сустрэчы і ў кнізе вучоны шмат месца прысвяціў калектывам, якія ў 1920 годзе праклалі шлях беларускаму тэатру: Тэатральнай трупе Уладзіслава Галубка і ўзнікламу крыху пазней у тым жа годзе Дзяржаўнаму беларускаму тэатру-1 у Мінску, а таксама Беларускаму дзяржаўнаму тэатру-2 у Віцебску, які пачаў сваю дзейнасць у 1926 г. БДТ-1 і -2 працуюць да сёння: першы — гэта Нацыянальны тэатр імя Янкі Купалы, другі — Нацыянальны тэатр імя Якуба Коласа. Трупа Галубка была распушчана ў 1937 годзе. Андрэй Масквін звяртае таксама ўвагу: „Узнікненне Беларускай Рэспублікі стала моцным штуршком для з'яўлення хвалі аматарскага тэатральнага руху ва ўсёй краіне. Пачынаючы з 1920 года, усё больш важную ролю ў актывацыі культурнага жыцця рэспублікі сталі іграць драматычныя гурткі і тэатральныя студыі. Яны былі створаны ў гарадскіх і сельскіх дамах культуры і іншых установах адукацыі і культуры. Гэты стыхійны масавы рух непрафесійнай творчасці Народны камісарыят асветы (яго камісарам, затым старшынёй Інбелкульта, быў Усевалад Ігнатоўскі — М. Х.) трактаваў як базу, з якой мелі чэрпаць наступныя прафесійныя гурты".

Праца Андрэя Масквіна надзвычай важная, таму што адзінымі шырэй даступнымі інфармацыямі па гэтым пытанні ў вельмі ўсечаным, калі не сказаць цэнзураваным абсягу, можна знайсці ў „Гісторыі беларускага тэатра", распрацаванай да „перабудовы" (у Польшчы справай тэатра гэтага перыяду займалася Алена Глагоўская). У Беластоку даследчык сказаў:

— Студэнты маюць малое ўсведамленне таго, што ў гэты перыяд у беларускім тэатры адбывалася нешта каштоўнае. У гэтых трох тамах „Гісторыі беларускага тэатра" знаходзіцца толькі яго павярхоўнае апісанне.

Дадаў:

— Шмат матэрыялу з гэтага перыяду было знішчана. Шмат знаходзіцца ў дрэнным стане або беспаваротна пазычылі іх архівы. Самі ж тэатры не маюць уласных архіваў. Многія матэрыялы згарэлі ў час вайны. Ніхто не наважыўся зрабіць мікрафільмы дакументаў, што знаходзяцца ў Маскве ці Санкт-Пецярбургу. Не вельмі шмат ведаем, напрыклад, пра Галубка, няма копіі яго рукапісаў і рэжысёрскіх экземпляраў. Інфармацыю пра гэта можна знайсці ва ўспамінах акцёраў з 70-х і 80-х гадоў.

На пытанне, чаму ён не пісаў сваю кнігу на беларускай мове, а якраз па-польску, Андрэй Масквін адказаў:

— Я хачу, каб у Польшчы як найбольш людзей даведалася пра беларускую культуру.

Адказваючы на пытанне „Нівы", што адбывалася ў вывучэнні беларускага тэатра ў перыяд пасля 1991 года (пасля ўзнікнення незалежнай Рэспублікі Беларусь) і пасля 1996 года (прыход Аляксандра Лукашэнкі да ўлады), ён сказаў:

— У пачатку 90-х гадоў пачаліся пэўныя працы. Зянон Пазьняк (заснавальнік Беларускага нацыянальнага фронту — М. Х.) нават напісаў доктарскую дысертацыю на тэму беларускага тэатра дарэвалюцыйнага перыяду. Займаўся гэтым перыядам Уладзімір Мальцаў. Зараз у Беларусі афіцыйна ніхто не працуе над гэтым, у тым ліку над аднаўленнем драматычных тэкстаў таго часу.

Успамінаў аб сённяшнім Тэатры імя Янкі Купалы:

— Тое, што робіць яго мастацкі кіраўнік Мікалай Пінігін, спасылаецца на тыя традыцыі, на сінтэтычны тэатр. Спрабуе аднавіць рэпертуар. Да яго лічылася, што беларускі тэатр гэта тэатр акцёрскі.

Адказаў пры нагодзе на пытанне, чаму драматургі ў Беларусі пішуць у асноўным на рускай мове:

— Мне здавалася, што яны пішуць, бо ў гэтай мове былі выхаваныя, але я згодны цяпер, што з думкай пра цэлы шэраг конкурсаў і фестываляў у Расіі.

У кнізе пісаў: „Узнятая тут тэматыка такса́ма можа быць у вышэйшай ступені карысным інтэрпрэтацыйным ключом у аналізе далейшага лёсу беларускага тэатра і нават яго сучаснай сітуацыі. Здаецца, тут пазначаныя здарэнні, у прыватнасці, тлумачаць зачаты яшчэ ў дваццатыя гады працэс страты нацыянальнай самасвядомасці беларускай сцэны, перш за ўсё падданай магутнаму ціску вонкавай у адносінах да тэатра ідэалогіі і палітыкі. Перад сілай гэтага ціску, як вядома, ніхто не мог выстаяць. Уведзены пазней на тэатральную сцэну гарсэт так званага сацыялістычнага рэалізму паглыбіў гэты працэс. Пасля паслаблення гэтага віду павярхоўнай стылізацыі не знайшліся стваральнікі настолькі свядомыя і мужныя, каб пазбегчы нацыянальнага адчужэння і неабходнасці практыкаваць мастацкія сервітуты перад тэатральнай расійскай метраполіяй. У выніку беларускі тэатр быў азмрочаны ценем на працягу многіх дзесяцігоддзяў. Нават сёння немагчыма сказаць, ці яму ўдалося знайсці сваю карпатліва будаваную на працягу дзесяцігоддзя 1920-1930 гг. цалкам беларускую ідэнтычнасць. У гэтым самым факце аўтар хацеў бы бачыць тэматычную своечасовасць свайго апісання".

У сваю чаргу, у анталогіі сучаснай беларускай драматургіі апынуліся Мірослава Адамчыка і Максіма Клімковіча **„Vita brevis albo spodnie świętego Jerzego"** (у перакладзе Агнешкі Гораль) і **„Czarny kwadrat"** (у перакладзе Наталлі Русецкай), Ігара Сідарука **„Głowa"** (пераклад Агнешкі Гораль), Сяргея Кавалёва **„Dziennik intymny"** (у перакладзе Малгажаты Бухалік) і **„Powrót Głodomora"** (пераклад Агнешкі Гораль), Лявона Вашка **„Seks korespondencyjny"** (у перакладзе Малгажаты Бухалік), Вольгі Гапеевай **„Kolekcjoner"** (пераклад Тэрэзы Гедз-Тапалеўскай і Наталлі Русецкай). Анталогію можна заказаць на сайце Асацыяцыі мясцовых ініцыятыў у Радзыне-Падляшскім (глядзі рубрыку „Кніжны магазін" на сайце **www.rasil.home.pl**). Выбар і рэдакцыю гэтай кнігі зрабіла Беата Сівэк, якая ў 2011 годзе апублікавала шырокую **„rzecz o białoruskim dramacie i teatrze"**, як абвяшчае падзагаловак кнігі **„Wolność ukrzyżowana"**, ахапляючай XX і пачатак **XXI** стагоддзяў.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

# Усходняе суседства (2)

**5 снежня адбыліся ва Універсітэцкай бібліятэцы імя Ежы Гедройца ў Беластоку міжнародныя дэбаты на тэму „Беларусь, Літва, Польшча і Украіна — поспехі, няўдачы і перспектывы суседства — палітычныя, гаспадарчыя, культурныя і міжчалавечыя адносіны, узаемныя міфы і стэрэатыпы".**

Прафесар **Рыгор Лазько** з Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта коратка выказаўся пра ментальныя адносіны беларусаў да Польшчы і Расіі. Краіны нашага рэгіёна яднае шмат агульных фактараў, аднак, як сказаў некалі Вацлаў Гавел, яднае нас галоўным чынам страх перад гісторыяй, перад неабходнымі але балючымі зменамі. Здаецца, што гэта страх найбольш уласцівы беларусам. Вось у той момант, калі тут адбываліся дэмакратычныя антыкамуністычныя рэвалюцыі, калі распаўся Савецкі Саюз, светапогляд беларусаў, іх жыццёвая філасофія выражалися такой фальклорнай формулай: бульба ёсць, дах не цячэ, абы вайны не было. Змяніць гэтую філасофію аказалася надзвычай цяжка, але, тым не менш, яна паступова мяняецца. Каб зразумець вытокі фарміравання гэтай філасофіі трэба аглянуцца на станаўленне беларускай мадэрнай нацыі. Беларуская нацыя сфарміравалася позна ў параўнанні з іншымі народамі. Гэты працэс пачаўся пасля доўгай паланізацыі сацыяльных вярхоў, а пасля русіфікацыі — беларускі народ амаль што страціў сваю арыстакратыю; у час нарадатварэння ён аказаўся без сваёй сацыяльнай эліты, без усяго таго, што звязана з яе прысутнасцю ў грамадстве. Тут сыгралі сваю ролю і фактары матэрыяльныя, і культурныя, і ментальныя, і некаторыя іншыя. Гэтая сітуацыя знайшла адлюстраванне і ў беларускім фальклоры, які сведчыць аб стаўленні беларусаў да яго суседзяў. Зварот „пан" ці „пані" ў Польшчы — форма ветлівасці. А ў беларускай мове ён мае іншае значэнне — гэтым словам называюць прадстаўніка вышэйшага класа. Пан гэта памешчык і, адпаведна, прыгнятальнік беларускага селяніна. У беларускіх казках, дзе фігурамі з'яўляюцца пан і селянін, пан заўсёды размаўляе на польскай мове, у той час як селянін на беларускай. У рэдкіх выпадках, калі пан робіць нешта добрае, тады ён пераходзіць на беларускую мову. Добры пан гэта такі, які на сваёй мове блізкі да селяніна. Вобраз рускага і Расіі іншы. Ён таксама адмоўны, але мае рысы амаральнасці; сын да бацькі: „Тату-тату, лезе чорт у хату". „Нічога, сынку, абы не маскаль". У гэтага народа была ўлада ў краі, прадстаўленая ў выглядзе яго чыноўнікаў, войска, якое падаўляла паўстанні, у якіх удзельнічала беларуская шляхта. Гэта народ, які заслужыў негатыўнае да сябе стаўленне і адначасна той народ, у руках якога ўлада. Вось гэта трэба ўлічваць, калі мова пра стаўленне беларусаў да Усходу і Захаду: Усход прадстаўлены рускімі, Захад — палякамі. Другім важным фактарам фарміравання беларускай нацыі з'яўляецца завяршэнне гэтага працэсу ва ўмовах жорсткай таталітарнай дыктатуры, якая была створана ў выніку прыходу бальшавікоў да ўлады. Яна пастаралася знішчыць носьбітаў беларускай нацыянальнай ідэі — беларускую інтэлігенцыю, яшчэ дастаткова слабую і малалікую, але здольную ўплываць на працэс фарміравання нацыі. Як ставіліся да прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі бальшавіцкія інспектары, сведчаць дакументы НКВД, у якіх ужо ў канцы 1920-х гадоў фігуравалі класікі беларускай літаратуры Янка Купала і Якуб Колас: нацдэмы, а крышку пазней і нацыянал-фашысты. Быў момант, што іх ледзь не знішчылі. У 1938 годзе Сталін, на пярэдадні гадавіны ўтварэння БССР, загадаў замяніць падрыхтаваныя для іх ордэры на арышт на ордэны — бо не было б з кім святкаваць дваццацігоддзя абвяшчэння Рэспублікі. Гэтыя таталітарныя рычагі на фарміраванне беларускай нацыі былі настолькі эфектыўныя, што адчуваюцца да сённяшняга дня. Яшчэ трэба згадаць і пра тыя вялікія войны, якія скаланулі Еўропай, якія прынеслі беларусам адносна найбольшыя страты. Так пасля Першай, як і пасля Другой сусветных войнаў беларускі народ апускаўся на ўзровень біялагічнага выжывання. Гэта не адзін вынік тых войнаў: ён заключаўся і ў змене нацыянальнага і дэмаграфічнага складу насельніцтва. З першых дзён пасля вызвалення ў 1944 годзе ў Беларусь кіраваць працэсамі абнаўлення прысылалі людзей з Расіі; гэты працэс працягваўся і пазней. За трыццаць пасляваенных гадоў колькасць рускага насельніцтва ў Беларусі вырасла больш чым удвая; гэтыя людзі займалі кіраўнічыя пасады ад старшынь калгасаў да самага высокага ўзроўню. Такім чынам у беларускага народа фарміраваліся не самыя лепшыя якасці, якія сёння перашкаджаюць яму хутчэй рухацца наперад да засваення новых ці забытых цывілізацыйных каштоўнасцей. Аднак гэты працэс ідзе. Калі разваліўся Савецкі Саюз і трэба было прыкласці намаганні, каб стаць на ногі, высветлілася, што сіл для гэтага не хапае; сіл хапіла толькі на тое, каб нарадавацца, што ўрэшце ўпала камуністычная ўлада. Апошнія апытанні грамадскай думкі сведчаць пра тое, што няўхільна змяншаецца колькасць прыхільнікаў інтэграцыі з Расіяй, а расце колькасць прыхільнікаў еўраінтэграцыі. Апошнія падзеі на Украіне таксама даюць нам надзею, бо так бывала ў нашай навейшай гісторыі, што мы ішлі за Украінай крок-два ззаду.



Доктар **Тадэвуш Гавін** з Гродна паінфармаваў пра справы польскай нацыянальнай меншасці ў Беларусі. Яны прама залежаць ад дзяржаўных узаемаадносін паміж Польшчай і Беларуссю. Калі гэтыя адносіны былі карэктныя, тады і меншасць магла карыстацца свабодай дзейнасці, калі яны пайшлі на спад, тады і дзяржаўныя органы сталі душыць дзейнасць Саюза палякаў Беларусі. Прыкладам газета **„Głos znad Niemna"**, якой тыраж у 1990-х гадах даходзіў да дванаццаці тысяч асобнікаў, зараз не выходзіць. Немалую ролю ў гэтым працэсе сыгралі і згаданыя ў загалоўку беластоцкай канферэнцыі міфы і стэрэатыпы. Яшчэ ў савецкі час польская меншасць у СССР лічылася пагрозай шматнацыянальнай дзяржаве яе праживання. Тое ж самае было прадоўжана і ў незалежнай ужо Беларусі, калі ў 1992 годзе тадышні старшыня беларускага КДБ Эдуард Шыркоўскі паставіў Польскае культурна-асветнае згуртаванне ў Беларусі пад падазрэнне — верагодна дзеля ўзбуйнення значэння свайго ведамства. Дакладчык, які шмат гадоў быў душой польскай меншасці ў Беларусі, заявіў, што ягоныя супляменнікі ніколі не былі пагрозай беларускай дзяржаве.



**Анна Владарчык** з Беластоцкага ўніверсітэта прадоўжыла тэму, ініцыяваную спадаром Гавіным, разглядаючы рэакцыі вядучых польскіх палітычных суб'ектаў на раскол у СПБ у 2005 годзе і дзеянні беларускіх аўтарытарыяў. Ангажаванасць улад РП у падтрымку толькі адной групоўкі беларускіх палякаў не дала станоўчых вынікаў, дазволіла затое беларускім уладам вінаваціць Варшаву ва ўмешванні ва ўнутраныя справы Беларусі. Дарэчы, тады ў Польшчы надыходзілі парламенцкія і прэзідэнцкія выбары і тагачасныя дзеянні польскіх палітыкаў у гэтым напрамку мелі толькі фармальны характар, а іх асноўнай мэтай было прыцягненне да сябе ўвагі польскага электарату.



**Сільвія Закшэўска** з Універсітэта Мікалая Каперніка ў Торуні выказалася пра пазнейшыя польска-беларускія адносіны, у тым ліку і ініцыятыву Усходняга партнёрства. Гэтая ініцыятыва была надта агульнай, не ўлічвала спецыфікі паасобных краін, да якіх яна была накіравана. Але ў беларуска-польскіх адносінах яна мела прынесці адлігу; і спачатку так нават магло здавацца. Снежань 2010 года нясе чарговы замаразак. Падае, між іншых, праект узвядзення польскімі фірмамі электрастанцыі ў Зэльве, якая мела працаваць на польскім вугалі ад Любліна. Польскі лозунг дэмакратызацыі Беларусі неяк не ідзе ў лад з яе ізаляваннем, з санкцыямі. Пакуль польскія ўлады не вывучаць спецыфікі Беларусі і адпаведна ёй не выпрацоўць стратэгіі супрацоўніцтва, цяжка разлічваць на нейкія палітычныя поспехі на ўсходнім напрамку.



Прафесар **Войцех Касядоўскі**, таксама з Універсітэта Мікалая Каперніка ў Торуні, падкрэсліў, што гэта палітыка залежыць ад эканомікі, а не наадварот. Сустрэчы, якія нічога не вырашаюць, праграмы, за якімі няма дастатковых сродкаў, бесперспектыўныя. А доказам гэтаму з'яўляецца фіяска Усходняга партнёрства і дамовы з Украінай, дзеянняў па сутнасці палітычнага характару. Дакладчык заўважыў, што ўсходнія краіны Еўрасаюза найбольш эканамічна адсталыя, а ўнутры іх найбольш адсталыя іх усходнія рэгіёны; у Расіі кантрасты яшчэ большыя. Ва Украіне валавы гадавы прадукт на галаву насельніцтва ў чатыры разы меншы за такі ж сярэдні паказчык для Еўрасаюза — і ён значна большы чым у пачатку 1990-х гадоў, і гэтая дыспрапорцыя пастаянна расце. Атрымалася гэта ў выніку спярша трансфармацыйнага крызісу 1990-х гадоў, а пазней і глабальнага фінансавага крызісу 2008-2009 гг. Беларусь у гэтым плане вылучаецца даволі кароткімі трансфармацыйным крызісам і адсутнасцю эканамічнай дэпрэсіі ў 2009 годзе. Значна горш з гэтымі выклікамі справілася Украіна; там зараз валавы індывідуальны прадукт складае толькі 60% ад таго, што быў у 1989 годзе. Беларусь жа ў той жа прыблізна час падцягнулася да еўрасаюзных краін на 28% — гэта больш паказчык чым для Польшчы. У агульнасці, дыспрапорцыі на ўсходнім памежжы Еўрасаюза паглыбляюцца і то значна, за выключэннем вось Беларусі. Удзел замежнага гандлю ў беларускай эканоміцы падыходзіць пад 70%, калі ў Польшчы ён складае недзе каля 40%. Тавараабарот Беларусі з Польшчай даволі памяркоўны; тут сваю ролю іграе палітыка, асабліва краная яна буйныя фірмы. Аднак верагоднасць усіх гэтых статыстык наконт беларускай эканомікі неправяральная.



Доктар **Антон Сланімскі** з Навукова-даследчага эканамічнага інстытута Міністэрства эканомікі Рэспублікі Беларусь закрануў стратэгічныя праблемы развіцця беларускай гаспадаркі. Зараз у Беларусі стае праблема недахопу працоўнай сілы, якая папаўняецца з краін Сярэдняй Азіі і Кітая, у той жа час, як пятая-чацвёртая частка працоўнай сілы краіны працуе за яе межамі. Іншай праблемай з'яўляецца збыт выраблених тавараў і дзеля гэтага Беларусь праводзіць шматвектарную, не толькі палітычную, але і эканамічную палітыку. Беларуская гаспадарка не аўтаркічная, яна адкрытая на свет.



*(працяг будзе)*

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Свет вачамі КШЫШТАФА БУЧАКА


Куратар выстаўкі прафесар Лявон Тарасэвіч і Кшыштаф Бучак

**Гродзенскія летапісы інфармуюць, што яшчэ ў далёкім 1549 годзе кароль Жыгімонт І Стары даў Крынкам прывілею на штогодні торг па чацвяргах. Пасля пераўтварыліся яны у штотыднёвыя кірмашы. Да нядаўна крынскі чацвер быў нагодай для абмену таварамі ці проста плёткамі. Каралеўскую прывілею пашырыў Крынкам пафесар Лявон Тарасэвіч. Цяпер у гэты дзень крынчане збіраюцца у сапраўднай галерэі па вуліцы Пілсудскага, каб паўдзельнічаць у вернісажах і пагаварыць, між іншым, пабеларуску, аб вялікім мастацтве.**

Хаця прэзентаванае ў Галерэі «Крынкі» мастацтва вялікае па змесце, яно вельмі блізкае і зразумелае мясцовым. У гэты раз крынчане сустрэліся з выяўленнямі іх уласнага, штодзённага існавання. Заінспіраваныя пабачаным размовы кранalі перадусім праблемы маральнасці ў правінцыйным, але таксама больш пашыраным плане. Тэму для разважанняў падсунуў ім Кшыштаф Бучак, рэкамендаваны Фондам «Віла Сакрата». Малады мастак, ураджэнец невялікага мазавецкага Венграва, сваю прафесію вывучаў у Варшаўскай акадэміі мастацтваў пад вокам прафесара Тарасэвіча. Пра тое, чаму менавіта яго работы паявіліся ў крынскай галерэі, распавёў сабраным куратар выстаўкі прафесар Лявон Тарасэвіч:

— Заўсёды я хацеў, каб каля сябе былі тут розныя мастакі, з розных месц. Кшыштаф Бучак прыехаў, мабыць, з крыху большага за Крынкі Венграва, але менталітэт у абодвух гарадках аднолькавы, хаця там польскі, а тут мешаны. Гэты мастак займаецца прадстаўляннем свайго ўласнага, маламестачковага свету. Такіх як ён у нашым наваколлі няма. Пасля заканчэння акадэміі ён вярнуўся ў родную мясціну, там жыве і працуе. Некалькі гадоў таму, з нагоды юбілею народзін пакойнага Сакрата Яновіча, мы папрасілі яго намаляваць ікону. Божую Маці ў кветках Кшысь маляваў цэлы год. Гэта была доўгая і складаная работа. Ікона тут увесь час, памаленьку зрастаецца з намі. Важнае, што аўтар іконы вельмі звязаны з верай і жыццём малога мястэчка. Прэзентаваныя сёння выявы касцёла ў Венграве, Фацімская Святая, «Яснагурская пілігрымка» ці асабістая праца звязаная з пахаваннем роднага дзеда з'яўляюцца сучаснымі, прымальнымі і зразумелымі тут для нас работамі. Распазнавальныя на карцінах ксёндз, родны брат аўтара ці мужчына з катэтарам, які толькі што ўцёк са шпіталя, усё гэта даволі цікавае і блізкае Крынкам.Таму мы яго сюды запрасілі.

Хаця малады мастак з Венграва не любіць публічных выступленняў, ён з ахвотай абвёў журналістку нашага тыднёвіка па сваёй экспазіцыі. Пачалі мы з маштабнай па форме і змесце «Яснагурскай пілігрымкі».

— Тут я паказваю карціны, звязаныя выключна з рэлігійнай тэмай, — гаворыць мастак. — Амаль усе яны паўсталі на аснове фотаздымкаў, якія служаць мне за нарыс. Немагчыма, для прыкладу, ісці ў пілігрымцы і рысаваць, а здымаць можна. Я паломнічаў сем ці восем разоў і хацеў перадаць свае ўражанні. Гэта часць майго жыцця.

Затопленую ў яркіх кветках Фацімскую Божую Маці Кшыштаф Бучак намаляваў будучы на другім курсе акадэміі, у майстэрні Лявона Тарасэвіча.

— Гэта адзін са шматлікіх, створаных мною нацюрмортаў, — прызнаецца ён. — Тут я вучыўся колераў. Падобны матыў выступаў і намнога раней, недзе ў XVII-XVIII стагоддзях, але тады кветкі былі толькі сціплым арнаментам іконы. У мяне яны рашуча пераважаюць. У прадстаўленні венграўскага касцёла я сканцэнтраваўся на прасторы. Хацеў паэксперыментаваць, паказаць яе ў іншым памеры і часе. Дваццаць пяць частак-кадраў касцельнага інтэр'еру, размешчаных у некалькісантыметровай адлегласці, ствараюць нешта накшталт рамы, якой у сапраўднасці няма. У адно зліваюцца і дэталі, запісаныя ў тым жа месцы, але ў зусім іншых абставінах.

Экскурсію завяршылі мы пры найменшым, але мабыць найбольш хвалюючым выяўленні. У невялікіх цёмна-сініх кадрах мастак занатаваў смерць свайго дзеда.

— Было мне тады недзе трынаццаць гадоў, — тлумачыць ён. — Гэтая праца паўстала два-тры гады таму, пры выкарыстанні старых, сямейных здымкаў. Пакуль служыць за нарыс да больш маштабнай работы. Тут паказаў я сутыкненне яснасці і цемры, дабра і зла. Хто перамагае, ніхто не ведае. Вядома толькі што станецца з чалавечым целам і гэта я таксама паказаў. У сваіх карцінах стараюся перадаць убачаны і адчуваны мною свет, але я не заўсёды добры і гэта таксама стараюся паказаць.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**

# http://ziernie-performa.net




Калісьці Уільям Шэкспір сказаў, што жыццё — гэта тэатр, а людзі ў ім акторы. Праўда, акрамя тэатра, якім з'яўляецца жыццё, некаторым людзям патрэбны нейкі дадатковы тэатр, дзе яны маглі граць не толькі ўласна сябе, але і ролю іншых персанажаў. Пэўна, тэатральных актораў можна лічыць шчаслівымі людзьмі, якія пражываюць не толькі сваё жыццё, але і жыцці выбраных герояў. Аднак некаторым акторам жыцця на сцэне аказваецца замала і яны яшчэ ладзяць тэатр у тэатры (то бок у нашым жыцці), ставячы так званыя пэрформансы. І больш за тое — ствараюць пляцоўкі, на якіх навучаюць сваіх прыхільнікаў. З адной з такіх пляцовак у Беларусі можна пазнаёміцца дзякуючы сайту, што месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://ziernie-performa.net** і носіць назву „зЕрне”.

„Платформа пэрфарматыўных практык „зЕрне” — гэта адкрытая пляцоўка для развіцця пэрфарматыўнага руху ў Беларусі з мэтаю стварэння альтэрнатывы пануючай манаполіі рэпертуарнага тэатра”, — гучна заяўляюць стваральнікі пляцоўкі ў рубрыцы „Пра нас”.

Асноўнымі напрамкамі дзейнасці платформы абвешчаны: падтрымка і развіццё разнастайных пэрфарматыўных практык і кірункаў; стварэнне ўмоў для лабараторнай працы ў сферы тэатра — як тэарэтычнай, так і практычнай (воркшопы, даследаванні, майстэрні); арганізацыя розных форм альтэрнатыўнай тэатральнай адукацыі (семінары, лекцыі); фармаванне свабоднай дыскусійнай крытычнай прасторы ў тэатральнай супольнасці.

На той жа старонцы можна пазнаёміцца з тымі, для каго тэатр больш, чым уласнае жыццё. Каманда невялікая і складаецца з дзвюх жанчын — рэжысёркі і тэатральнага педагога Валянціны Мароз ды яе сяброўкі, тэатральнай рэжысёркі і крытыка Таццяны Арцімовіч. Пра кожную з іх даецца невялікі біяграфічны расповед і размешчаны фотаздымкі.

Галоўная старонка сайта змяшчае зменлівыя фотаздымкі, якія ілюструюць навіны. Да таго ж загалоўкі навін падаюцца бягучым радком пад ілюстрацыямі. Ніжэй за галоўныя навіны ідуць расповеды пра разнастайныя падзеі пэрфарматыўнага жыцця. Некаторыя матэрыялы не маюць тэксту — на старонцы папросту выкладзена відэа. Гэта, напрыклад, тычыцца майстар-класа Ірыны Ануфрыевай, дзе паказана, як трэба кіраваць сваёй мімікай і рухамі цела.

Падзяленне навінных паведамленняў з пэрфарматыўнага і тэатральнага жыцця Беларусі можна ўбачыць, калі зазірнуць на старонку „Праекты”. Яна мае тры падрубрыкі — „Рэканструкцыя”, „Чытка new!” і „Адукацыя”. Праўда, інфармацыя месціцца толькі ў першай і апошняй. Гэта даволі дзіўна, бо такі тэатральны жанр як чытка даволі распаўсюджаны цяпер у Беларусі.

Дзякуючы старонцы „Тэорыя” цікаўны да тэатра інтэрнэт-карыстальнік папоўніць свой слоўнікавы запас, зазірнуўшы ў тлумачальную падрубрыку „Лексікон”. Таксама на дадзенай старонцы можна знайсці расповеды пра асоб, якія, з пункту гледжання стваральнікаў сайта, маюць сур'ёзныя дасягненні ў пэрфарматыўнай і тэатральнай дзейнасці.

„Падзеі найноўшай гісторыі беларускага тэатра: гісторыя, якая здзяйсняецца на нашых вачах! Раздзел пастаянна папаўняецца і ўдакладняецца”, — кажуць уладальнікі сайта ў падрубрыцы „Хроніка”. Яна падзелена на гады, на кожны з якіх выпадае адна самая важная падзея. 2013 года там пакуль няма.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з Календара



### Слава каралеўскага дойліда

# 215 гадоў з дня смерці Джузэпэ САКА

22 снежня 1798 г. у нашай старадаўняй сталіцы Вільні пайшоў у іншы свет Джузэпэ Сака, італьянскі архітэктар, які вельмі шмат працаваў на Віленшчыне і Гарадзеншчыне. На нашых землях гэтага яскравага прадстаўніка архітэктуры барока і класіцызму называлі на мясцовы капыл — Юзаф.

Нарадзіўся Джузэпэ Сака ў 1735 г. у далёкай Італіі ў слаўным горадзе Верона. У Гародню ён быў ангажаваны рэфарматарам Антонам Тызенгаўзам. Італія ў той час лічылася заканадаўцам новых архітэктурных стыляў, славілася сваімі майстрамі і дойлідамі, якіх запрашалі ў розныя краіны. Сака прыехаў у Гародню ў 1773 г., неўзабаве заняўшы пасаду прыдворнага архітэктара. Менавіта пад яго кіраўніцтвам забудоўваліся гарадзенскія каралеўскія мануфактуры. Сака адначасна кіраваў будаўнічай школай у мікраараёне Гарадніца. Архітэктурнымі здабыткамі гэтага майстра сталі Аўгустоўскі і Станіславаўскі каралеўскія рэзідэнцыі, знакаміты палац у Свяцку. У Шчорсах, якімі валодалі Храптовічы, сааўтарам мясцовага палацава-паркавага комплексу быў яго суайчыннік Карла Спампані. Сака таксама разам з саксонскім архітэктарам Іаганам Мёзерам удзельнічаў у афармленні і аздобе інтэр'ераў і рэканструкцыі палаца Тызенгаўза ў Гародні, працаваў у каралеўскім палацы Новага замка, мясцовай ратушы. Даследнікі заўважаюць, што Сака прыехаў ужо пасля дрэздэнца Мёзера, таму карэктаваў і завяршаў некаторыя праекты папярэдніка. У горадзе над Нёманам прыезджы архітэктар фактычна ўзначальваў усе асноўныя будаўнічыя працы, праславіўся і хутка быў абдораны міласцямі не толькі з боку Антона Тызенгаўза, але і караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Ён атрымаў дваранства, чын маёра і нарэшце тытул галоўнага архітэктара ўсяго Вялікага Княства Літоўскага.

Пакінуў Джузэпэ Сака свой яскравы след у камяні і ў іншых рэгіёнах Беларусі — Паставах, Ішчалне, Берасці, Камянцы, Беніцы. Стварыў праект пабудовы ратушы ў Вільні, які, аднак, не быў рэалізаваны.

Датычна месца апошняга спачыну каралеўскага архітэктара няма адназначных звестак. Паводле адных ён пахаваны ў Гародні на старых каталіцкіх могілках, паводле іншай версіі — у сваім маёнтку Дубасна на Сакольшчыне. Магіла дойліда не захавалася, а таму найлепшай памяццю яму магла б стаць вуліца паблізу старога каралеўскага парку Станіслава, што ў горадзе над Нёманам. Прыкладам можна было б перайменаваць у гонар выдатнага дойліда вуліцу касманаўткі Церашковай, альбо натураліста Ціміразева, якія не пакінулі ніякага следу ў гісторыі Гродна. Праўда, у 2008 г. на беразе рэчкі Гарадпічанкі, што ў самым цэнтры, быў пастаўлены, а дакладней пасаджаны на лаўку бронзавы помнік Сака аўтарства скульптара Аляксандра Анціпіна. Але няшмат хто з жыхароў горада ведае, каму ўсталяваны гэты помнік.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Сяброўскі сувенір

У 46 нумары „Нівы” ад 17 лістапада друкаваліся тэксты Яна Чыквіна і Жэні Мартынюк, прысвечаныя памяці Міхася Шаховіча. З Міхасём Шаховічам я таксама пазнаёміўся ў „Ніве”. Як карэспандэнт часта я наведваў рэдакцыю. З першых дзён знаёмства прыпалі мы сабе да душы, быццам браты парадніліся. Аднойчы, едучы ў камандзіроўку, Міхась прапанаваў мне паехаць разам, ды наведаць ягоных бацькоў у Саках. У час гасціны падарыў мне сябра два філатэлістычныя альбомы. „Гэта будзе, Валодзя, падарунак ад мяне дочкам”, — сказаў. З таго часу мінула больш трыццаці гадоў. Трынаццаць гадоў мінула як праводзілі Яго ў апошнюю дарогу — выдатнага беларускага паэта-„белавежца”, задушэўнага калегу і кампаньёна карэспандэнцкіх з’ездаў. Сяброўскі сувенір зберагаю зараз быццам рэліквію ў дамашняй бібліятэчцы. З узрушэннем гартаю карткі з маркамі. Успамінаю мінулыя будні, гляджу здымак з жонкаю і дочкамі, які зрабіў нам у рэдакцыі на памяць. Зараз можна ўявіць чым захапляўся Міхась. Багатую калекцыю марак прадстаўляюць кветкі, звяркі (коцікі, сабакі, сланы, ваўкі), матылі, птушкі, рыбы, грыбы... Агульна можна сказаць — прырода. І акружаючы навокал свет, экзатычныя краіны: Танзанія, Гвінея, Нікарагуа, Лаос, В’етнам, Кітай, Філіпіны, Аўстралія, Канада, ЗША, еўрапейскія дзяржавы... Шмат марак савецкіх і айчынных, якія прадстаўляюць важнейшыя эканамічна-палітычныя падзеі XX стагоддзя. Каштоўны гэта падарунак...



Памятны здымак, які зрабіў нам Міхась Шаховіч у рэдакцыі. Злева направа: дачка Аліна, аўтар, жонка Анна і дачка Ірэна

Апошні раз мы сустрэліся з Міхасём у Варшаве на Усходнім вакзале. Кампанію яму састаўлялі два сябры. Падаваліся ў Беласток. З таго, што я прыкмеціў, не быў гэта даўнейшы, жыццярадасны жартаўнік, аптымістычна спаглядаючы на свет. На твары калегі малявалася разгубленасць, сум і трывога. У час падарожжа няшмат гаварылі. Абмежаваліся да спажыцця некалькіх бутэлек піва. І ў такім жа сумным настроі развіталіся на пероне беластоцкага вакзала. Неўзабаве пасля варшаўскага падарожжа рэдакцыйныя калегі перадалі мне вестку. У сваім дзённіку пад датай 5 чэрвеня 2000 года я запісаў: „Памёр Міхась Шаховіч”.

Вечная Табе памяць, сардэчны сябра!

**Уладзімір СІДАРУК**

# Адгаданка

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 |
| | | | | | | 21 | 22 |
| 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 |
| | 31 | 32 | 33 | 34 | 35 | 36 | 37 |

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — арабскую пагаворку.

1. між ютранню і вячэрняй = 30 _ 31 _ 32 _ 33 _ 34 _ 35 _;
2. топкае балота, дрыгва = 6 _ 7 _ 8 _ 16 _ 28 _;
3. тытул феадальнай знаці ў некаторых краінах Блізкага і Сярэдняга Усходу = 13 _ 17 _ 18 _;
4. плацежныя сродкі з польскіх „капеек” = 29 _ 27 _ 25 _ 19 _ 20 _;
5. абрад памінання нябожчыкаў = 15 _ 21 _ 14 _ 26 _ 5 _;
6. Іпацій, ініцыятар Брэсцкай уніі = 4 _ 9 _ 10 _ 11 _ 12 _;
7. буйны бакавы адростак ад ствала дрэва або астатак ад яго ў дошцы = 1 _ 3 _ 2 _;
8. бакавая частка твару = 23 _ 24 _ 22 _ 36 _ 37 _.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 47 нумара**

Ас, бераг, зад, зебу, каза, кіно, моц, ніша, цеста, яхта.

Рашэнне: **Хто шукае сябра без заган, астаецца адзінокім**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Яну Рубчэўскаму** з Беластока і **Яну Міхалюку** з Чыжоў.

# Самы справядлівы гараскоп на 2014 год!

**(22.03. — 20.04.)** Будзеш прымушаны да большай працавітасці і трываласці. Нічога не занядбоўвай. Дзякуючы скрупулёзнасці, сумленнасці і добрай стратэгіі пераадолееш перашкоды і зрэалізуеш найлепшыя праекты. Кантакты стабільныя і трывалыя. У фінансах год нялёгкі, але вельмі важны. Трэба будзе вырашыць пару спраў і даць рады цвёрдым патрабаванням жыцця. Выкажашся моцным характарам, энергіяй, кемлівасцю; дапрацуй усе дэталі, будзь цярплівы, нічога не прыспешвай — з поспехам зрэалізуеш усе свае намеры.

**(21.04. — 21.05.)** Ахвотна зоймешся самастойнай дзейнасцю далёка ад шуму свету. Высока будзеш цаніць кантакты са старэйшымі і вопытнымі людзьмі; дасягнеш намнога вышэйшую пазіцыю ў прафесійным і асабістым плане. Сур’ёзна ў пачуццях — важная будзе іх глыбіня, спеласць, адданасць, вернасць. Знойдзеш спосаб, каб пераставіць жыццё на лепшыя пуці. Прыязныя людзі. На працы патрэбныя будуць змены і абмежаванні — гэта твой шлях да поспеху. Варта зрэдукаваць выдаткі; разумна бяры крэдыты, абдумана пазычай. Дбай аб добрыя адносіны з супрацоўнікамі — з імі лягчэй пераможаш праблемы і зрэалізуеш праекты.

**(22.05. — 22.06.)** Нахай твае дзеянні апіраюцца на маральнасці і звычаях. Пашырыцца кола тваіх знаёмых, а дзякуючы новым асобам пераканаешся, што няма выпадковасці ва ўсім, што адбываецца. Канструктыўныя і сур’ёзныя дыскусіі з партнёрам, важны клімат шчырасці і ветлівасці. Самотныя Блізняты пазнаёмяцца з кімсьці, хто захопіць іх паразуменнем душ і інтэлектуальным сяброўствам; развой пачуцця памалу, але на салідный аснове. Маеш шанц на поспех, але не зляцідь ён табе з неба. Шмат дасягнеш дзякуючы працавітасці, самакантролю і лагічнаму мысленню.

**(23.06. — 23.07.)** Год вялікага шанцу! Можаш знайсці сваё месца на зямлі або ўласнае наканаванне. Хаця будзе гэта год не зззяючай экспансіі, а цярплівай карпатлівай працы. Усё што цяпер зробіш, збудуеш, створыш будзе мець асаблівую трываласць. Вырастуць твае амбіцыі. Будзеш развівацца, дзейнічаць, стварацьы, гуляць і гэтага самага патрабаваць ад партнёра. Ракі без пары не прапусцяць нагод, каб пазнаёміцца ў добрай кампаніі, наладзіць добрыя знаёмствы. Калі не будуць ставіць завялікіх патрабаванняў, маюць шанц на сапраўднае і доўгатрывалае каханне. Не бяры на сябе зашмат задач, бо ўсё зачатае трэба будзе давесці да канца. Будзеш энергічны, трывалы і талковы. Слухай парад старэйшых і вопытных, не ўлазь у рызыканцкія прапановы.

**(24.07. — 23.08.)** Будзеш больш дысцыплінаваны, цярплівы і асцярожны. Хопіць табе паслядоўнасці і цярпення на шляху да мэты. Бярыся за цяжкія і патрабавальныя праекты. Чым больш цяпер дасягнеш, тым больш камфортныя будуць для цябе наступныя гады. Трывала і стабільна ў пары. У сям’і талерантна, верна, клапатліва. На працы і ў фінансах будзеш мець шанц паказаць свае найлепшыя рысы характару. Амбітна і з жалезнай упартасцю пойдзеш па чарговых прыступках кар’еры. Можаш стаць лідарам, кіраўніком. Не раскідвайся грашыма, і будзе гэта адзін з найбольш плённых перыядаў твайго жыцця.

**(24.08. — 23.09.)** Будзеш практычны і разумны, але не адмаўляйся ад інстынкту. Упарадкуеш справы дома, на працы, у каханні, падгоніш апушчанае ў вучобе. Незалежна ад абазязкаў, будзеш шчаслівы і здзейснены. Пераглянеш свае знаёмствы. Больш паклапоцішся аб сям’ю. Пераканаешся, што каханне — як расліна — занядбанае засыхае. Ніякі высілак не будзе для цябе завялікі і ніякая задача зацяжкая. Спраўна засяродзься і адолееш перашкоды на прафесійным шляху і фінансавым поспеху. Не спалохаешся карпатлівае працы. Шмат карысці ад супрацоўніцтва, а дапамога слабейшым прынясе табе радасць.

**(24.09. — 23.10.)** Навучышся рабіць высновы з урокаў ад суровага Сатурна. Знойдзеш уласную дарогу ў жыцці і з задавальненнем пойдзеш па ёй. Будзеш актыўны, вынаходлівы і паслядоўны ў памнажанні сваёй маёмасці — як матэрыяльнай, так і духовай. Твой поспех будзе трывалым. Пачуцці пачнуцца з сяброўства, вернасці і прывязанасці, мо не такія спантанныя, затое глыбокія і трывалыя. Паглыбіш свой вопыт і ўмеласці ды здабудзеш веды ў новых галінах. Вучоба і эфектыўная праца прынясуць табе вялікае задавальненне. Давярай сваёй інтуіцыі, а знойдзеш новую дарогу для развою далейшай кар’еры. Добрыя шанцы ў галіне дакладных навук, права, музыкі і мастацтва.

**(24.10. — 22.11.)** Запал, вынаходлівасць і здольнасць пераадольвання праблем — часта ў спосаб, які задзівіць цябе самога. Вырастуць твае амбіцыі, схільваючыя цябе да здабыцця вышэйшай пазіцыі ў грамадстве, улады. Зможаш прааналізаваць свае памылкі і зрабіць правільныя высновы. Большы спакой у пачуццёвым жыцці і магчымая легалізацыя пары. Пары з доўгім стажам пачнуць інвестыцыі, якія іх жыццё зробяць больш стабільным, бяспечным і камфортным. У фінансавых мэтах прымяняй метад малых крокаў і не думай аб відных здабытках. Забяспеч і ўзмацні свае здабыткі. Падрыхтуйся да дзеянняў канкурэнцыі. Калі выкажашся цярплівасцю і працавітасцю — чакае цябе заслужаны поспех.

**(23.11. — 22.12.)** Хаця будзеш бунтавацца супраць няволі абмежаванняў, недахопу спантаннасці і энтузіязму, твая новая пастава прынясе табе больш прыбыткаў чым адмаўленні. Да голасу дойдуць твае шляхетныя імкненні, дабрыня і ахвота дапамогі іншым. Будзеш карыстацца вялікім поспехам і папулярнасцю. Будзь верны ў сваёй пары! Шануй пастаяннасць у сям’і. Дзякуючы супрацоўніцтву са старэйшымі і вопытнымі людзьмі лягчэй вызначыш свае мэты, прыярытэты і з верай у сябе возьмешся за рэалізацыю найцяжэйшых задач. Умеласць яснага і лагічнага пагляду, справядлівая ацэнка. Не знеахвочвайся, працуй.

**(23.12. — 20.01.)** Будзеш палягаць на аўтарытэтах, сумленнасці, лаяльнасці, традыцыі, гонары. Можаш знайсці асобу на дабро і зло. Не бойся няўдач у пачуццях! Усе Казярогі — і ў пастаянных парах, і жывучыя новым каханнем — будуць шчаслівыя. Схочаш здабыць прызнанне, павагу і пашану — пачнеш ад салідных падстаў — ведаў і вопытнасці. Цярплівасць, развага, арганізацыйныя здольнасці дадуць табе падставу стаць начальнікам. Год, хаця спрыяльны, патрабуе ад цябе цярплівасці, моцнай волі, адвагі і абдуманай стратэгіі.

**(21.01. — 19.02.)** Будзеш трывалы і цярплівы. Да ўсяго падыдзеш халодна і абдумана. Выкарыстай добры час каб справіцца з хвастамі. Вырашы аб тым, чаго не зрабіў гадамі, упарадкуй справы, якія для цябе дасюль былі цяжкімі. Устабілізуецца пачуццёвае жыццё. Каханнем жыцця можа аказацца асоба, якую мінаеш на калідоры! Моцна ў пастаянных парах. Калі выкананне шмат якіх прац будзе лучыцца з адмаўленнямі, варта ўсё ж зрабіць гэты ўрок. Усё старанна плануй, памятай, што спантанныя дзеянні і імправізацыя сёлета не будуць мець шанцаў. Паддайся дысцыпліне, а будзеш мець нямала нагод для поспеху.

**(20.02. — 21.03.)** Пазбудзься ўсялякіх націскаў. Не шукай у гарачцы таго, што і так наступіць у адпаведным часе. Займіся абавязкамі, жыві спакойна, бач добрыя бакі ў розных сітуацыях. І для цябе прыйдзе час чарпаць з рога багацця. Год эмацыйнага спакою і стабілізацыі. Дом — сапраўдны прытулак поўны цяпла і зычлівасці. Самотныя Рыбы няхай не зачыняюць сэрца перад каханнем, нават калі раней апарыліся. Пару можаш знайсці ў найбольш звычайных, штодзённых акалічнасцях. У фінансах можаш дасягнуць усяго што хочаш. Возьмешся за абмітныя рашэнні і будзеш паслядоўна імкнуцца да іх рэалізацыі. Удадуцца праекты. Увойдзеш у новы этап жыцця, у якім хопіць табе задавальнення ад уласных дасягненняў ды фінансавых поспехаў.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня:** Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet:** *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail:** *redakcja@niva.bialystok.pl*
*Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.*

**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня:** „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00]. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2013 roku — 52.
**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 13 000 egz.

